ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 11 (2309) 18 сакавіка 1993 г. Выдаецца з 1955 г.





**Апякун гандлю Меркурый ля Гандлёва-прамысловай палаты Рэспублікі Беларусь, лёгкі на нагу зубр на інжынерным корпусе Мінскага метрапалітэна, многія іншыя адметныя знакі, што ўпрыгожваюць сталіцу дзяржавы, зроблены рукамі аднаго і таго ж чалавека — Юрыя Любімава. Пра гэту цікавую асобу вы даведаецеся на 7-й стар.**

# ТОЛЬКІ СУМЛЕННАЯ ПРЭСА СВАБОДНАЯ

**З МІНІСТРАМ ІНФАРМАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ Анатолем БУТЭВІЧАМ ГУТАРЫЦЬ КАРЭСПАНДЭНТ "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ" Веранiка ЧАРКАСАВА**

**— Анатоль Іванавіч, зараз рыхтуецца новы Закон аб друку Рэспублікі Беларусь. Якім бы вы хацелі яго бачыць і чым ён павінен адрозніваца ад былога саюзнага Закона аб друку?**

— Саюзны закон стварауся агулам для выданняў усіх катэгорый і напрамкаў, а ў кожнага выдання і ў кожнай рэспубліцы ёсць свае асаблівасці, якія трэба ўлічваць. Былы ж закон не прадугледжваў гэтага. Што да закону, які мы зараз распрацоўваем, то я хацеў бы яго бачыць дэмакратычным, адпавядаючым сённяшняму стану і статусу Беларусі і абавязкова дзейсным. Хацелася б, каб у ім было спалучэнне тэарэтычнага падыходу з практычнай дзейнасцю сродкаў масавай інфармацыі, каб закон забяспечваў свабоду слова, меў пэўныя гарантыі гэтай свабоды і ў той жа час даваў магчымасць прыцягваць да адказнасці перад законам тых, хто яго парушае.

**— Вы толькі што вярнуліся з камандзіроўкі на радыё "Свабода". Раскажыце пра яе вынікі.**

— Працягваліся нашы перамовы накont магчымай трансляцыі перадач радыё "Свабода" на Беларусь. Мы ўвогуле вельмі станоўча ставімся да супрацоўніцтва сродкаў масавай інфармацыі розных краін, і трансляцыя перадач "Свабоды" на Беларусь пачнецца, як толькі будуць вырашаны тэхнічныя пытанні. Спадзяюся, што гэта хутка адбудзецца.

**— Ці існуе сёння на Беларусі цэнзура ў прэсе?**

— А гэтае пытанне я хацеў бы задаць вам, практычнаму работніку. У вашай газеце вы яе адчуваеце?

**— Здаецца, не. Калі пішу, менш за ўсё думаю пра цэнзуру.**

— Яе і немагчыма сёння ўвесці. Мяркуйце самі: у сістэме Міністэрства інфармацыі існуе інспекцыя па ахове дзяржаўных тайнаў у сродках масавай інфармацыі, дзе працуе 23 работнікі. У нас жа сёння зарэгістравана больш за 630 выданняў, ёсць яшчэ дзяржаўнае радыё і тэлебачанне, плюс 168 недзяржаўных тэле- і радыёпраграм. Дык хіба ж можна фізічна за імі сачыць? І ці ёсць такая патрэба? У дзейнасці інспекцыі існуе не папярэдняя, а наступная чытка, чытка пасля таго, як выданне выйшла ў свет. І калі там сапраўды ёсць парушэнне дзяржаўнай тайны, работнікі інспекцыі звяртаюцца да кіраўніцтва выдання або праграмы і праінфармуюць яго. Але зноў жа, каб тут не было вольнага падыходу, мы павінны распрацаваць добрую нарматыўную базу. І зараз, акрамя Закону аб друку, мы распрацоўваем Закон аб выдавецкай дзейнасці і Закон аб радыё і тэлебачанні. Гэтыя законы, з аднаго боку, павінны гарантаваць дзяржаўную тайну, з другога — не дапусціць перагібу ў бок татальнага засакрэчвання. А што датычыцца свабоды прэсы, дык мне хацелася б прывесці выказванне прэзідэнта Форуму свабоды ў сродках масавай інфармацыі Алана Ньюхарта. Ён сказаў, што прэса можа быць свабоднай толькі тады, калі яна сумленная. Вы ж бачыце, што ў нас ёсць і крайне левыя, і крайне правыя газеты, але ж закрываць гэтыя выданні мы не збіраемся. Трэба збліжаць гэтыя пагляды, каб уся прэса працавала на карысць дзяржавы, на карысць інтарэсаў Беларусі.

**— Што ўваходзіць у сферу дзейнасці Міністэрства інфармацыі?**

— На наш погляд, задачы міністэрства складаюцца з трох пазіцый. Першая — нам трэба выбудаваць уласную інфармацыйную прастору. Гэта значыць, даць магчымасць рэальна існаваць усім сродкам масавай інфармацыі ў межах Беларусі, з аднаго боку, і адначасова прарваць інфармацыйны вакуум пра сябе ў свеце. Хто сёння раскажа пра нас, акрамя нас саміх? Ні былое ТАСС, ні Цэнтральнае тэлебачанне гэтыя функцыі на сябе не возьмуць. Таму мы і шукаем кантакты з тэле-, радыёкампаніямі, інфармацыйнымі агенцтвамі і асобнымі сродкамі масавай інфармацыі іншых краін. Ёсць ужо і заключаныя пагадненні, у прыватнасці, Беларускае радыё супрацоўнічае з Беластоцкім, Беларускае тэлебачанне — з Польскім, Белінфарм — з агенцтвам "Сіньхуа". Вядуцца перамовы паміж Белінфармам і германскім агенцтвам ДПА. Дамовы мы шукаем, але ж часам нам больш імкнуцца прадаць інфармацыю пра сябе, чым даведацца пра тое, што робіцца ў нас. А мы за прынцып парытэту.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ПАБРАЦІМ САМЫХ ЛЕПШЫХ, САМЫХ АДМЫСЛОВЫХ КУПАЛАЎЦАЎ

# ТЭАТР — І АНІЧОГА, АКРАМЯ ТЭАТРА

*ДА 70-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЗАСЛУЖАНАГА АРТЫСТА БЕЛАРУСІ Барыса УЛАДАМІРСКАГА*

Голас ён меў раскацісты і ракатлівы, што гучаў з арганнай моцай. Быццам у душы чалавека штосьці вулканічна бушавала і вось склалася ў гукі, у словы, у мелодыю сказаў. Помню, як на самым пачатку тайнага спаткання з Джульетай у начным садзе Капулеці ягоны Рамэо прыцішана і гучна ракатаў: "Я не смею імя сваё назваць, мая святыня! Імя маё — варожае табе, таму яно агідна мне самому...". Шчырасць гэтага прызнання ўзрушала, бо яго вымаўляе не юнак, а закаханы малады мужчына. Па-акцёрску вельмі выразна далучаў нас, гледачоў, артыст Барыс Уладамірскі да таго няўлоўнага моманту ў пераживанніях чалавека, калі ён злівае ў адно свае летуценні з цвярозым прысудам.

А паводле сямейнай легенды Уладамірскіх, самым першым словам, якое ў двух складах прамовіў зусім маленькі Бора, было: "Шча-сце...". І схілены да яго бацька, Уладзімір Восіпавіч, ледзь не пусціўся ў скокі: сын прагавaрыў не "мама" і не "та-та", а гэтае прывіднае, такое жаданае! Маці, кажуць, насцярожылася. Кацярына Замешына была таксама актрыса Першага БДТ і магла разам з мужам заўважыць і адзначыць усялякую арыгінальнасць, але ж такую... Потым яны памеркавалі і здагадаліся, што Бора змалку, як ластаўка пад дахам, меў штовечар прытулак у закулісных грымёрных, дзе не сціхае гоман акцёрскіх галасоў. Мабыць, і ў жыцці, і на падмостках сцэны тыя галасы часцей за ўсё гаварыць пра шчасце! Таму дзіця і запомніла, засвоіла, а мо і палюбіла магічнае слова, якое так спакушае нас сваім абяцаннем нечага звабліага і велічнага.

І сапраўды хлопец ён быў з сябе відны, нават франтаваты. Вельмі падобны і вонкава на славутага свайго бацьку — таго самага Уладамірскага, які разам з Фларыянам Ждановічам, Еўсцігнеем Міровічам, Уладзімірам Крыловічам, Генрыхам Грыгонісам, Кацярынай Міронавай і іхнімі паплечнікамі ладзіў Беларускі дзяржаўны тэатр. Не выпадкова тэатр атрымаў неўзабаве сімвалічны прыметнік — Першы. Першы БДТ 20-х гадоў — гэта наш знакаміты акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы.



Калі ён упершыню пераступіў парог тэатра, яму, Валодзю Малейку, які ўзяў тады і сапраўды рамантычны сцэнічны псеўданім "Уладамірскі" (бо артысту ж наканавана ўладарыць над глядзельнай залай, а тая зала — ці не свет у мініяцюры!), было трыццаць гадоў.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*У ШТАБ-КВАТЭРЫ СНД*

## ЭКАНАМІЧНЫ СУД

**У штаб-кватэры СНД у Мінску адбылося арганізацыйнае пасяджэнне суддзяў СНД. У ім удзельнічалі прадстаўнікі Расіі, Беларусі, Казахстана, Кыргызстана, Узбекістана. На падставе палажэння аб эканамічным судзе, зацверджаным раней Саветам кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці, удзельнікі пасяджэння выбралі старшыню эканамічнага суда.**

**Ім стаў міністр юстыцыі Рэспублікі Беларусь Леанід Дашук, праўда, старшынёй эканамічнага суда яго яшчэ павінны зацвердзіць на Савеце кіраўнікоў дзяржаў.**

**У гэты ж дзень Леанід Дашук правёў брыфінг. "У адрозненне ад міжнароднага суда дзяржаў ЕЭС, — заявіў ён, — мы будзем вырашаць толькі эканамічныя прэтэнзіі і спрэчкі паміж краінамі Садружнасці і гаспадарчымі суб'ектамі".**

**Тут, зразумела, ёсць свая логіка. У выніку "шлюбаразводнага" працэсу паміж рэспублікамі былога СССР накапілася нямала маёмасных прэтэнзій, далёка не заўсёды належным чынам вырашаюцца праблемы платы за пастаўленую па дагаворах прадукцыю, іншыя гаспадарчыя пытанні. Эканамічны суд краін СНД, на думку яго першага старшыні, будзе мець неабходныя прававыя рычагі для паспяховага вырашэння гэтых няпростых на сёння задач.**

*БЗВ ПРАПАНУЕ*

## ЗВАРОТ ДА КІРАЎНІЦТВА ДЗЯРЖАВЫ

**Каардынацыйная рада Беларускага згуртавання вайскоўцаў прыняла зварот да кіраўніцтва дзяржавы. У прыватнасці, у ім сцвярджаецца, што ў войску шырока распаўсюджаны злоўжыванні, раскраданне маёмасці. Афіцэрскі корпус пакуль што не ўспрымае задачу абароны рэспублікі як свой маральны абавязак. Расце ўплыў экстрэмісцкіх арганізацый, якія адкрыта дамагаюцца ліквідацыі нашай незалежнасці.**

**Адна з галоўных прычын такога становішча, на погляд БЗВ, — існуючая сістэма кадравых прызначэнняў на вышэйшыя пасады ва Узброеных Сілах, пры якой апошняй і рашаючай інстанцыяй з'яўляецца не міністр абароны, які прызначаны на сваю пасаду Вярхоўным Саветам і нясе адказнасць за становішча ў войску, а чыноўнікі адпаведнага ўпраўлення Саўміна, якія такой адказнасці не нясуць і не ўсе з якіх, сцвярджае БЗВ, маюць рэпутацыю патрыётаў Беларусі.**

**Таму БЗВ прапануе:**

**1. Правесці пераатэстацыю кіруючых асоб Узброеных Сіл, акрамя міністра абароны, камісіяй у складзе прадстаўнікоў Вярхоўнага Савета, Кантрольнай палаты, грамадскасці.**

**2. Змяніць сістэму кадравых прызначэнняў на вышэйшыя пасады ў войску. Апошняй і рашаючай інстанцыяй у такой сістэме ў далейшым павінен быць толькі міністр абароны.**

**3. Забараніць вайскоўцам удзел у арганізацыях, якія выступаюць супраць канстытуцыйна зацверджаных незалежнасці і суверэнітэту Беларусі, дзяржаўнасці беларускай мовы.**

*ВАЕННА-ПРАМЫСЛОВЫ КОМПЛЕКС*

## ЗАБЯСПЕЧЫМ СЯБЕ САМІ

**У Міністэрстве абароны рэспублікі распрацаваны план навукова-даследчых і доследна-канструктарскіх работ, згодна з якім будзе разглядацца магчымасць ствараць уласную стралковую зброю. Асаблівую ўвагу плануецца ўдзяляць распрацоўцы фундаментальных напрамкаў у радыёэлектроніцы, оптыцы і г.д. Цяпер Беларусь забяспечвае армію маёмасцю ўласнай вытворчасці прыкладна на 5 працэнтаў. У перспектыве гэты паказчык павінен вырасці да 20 працэнтаў. Да распрацоўкі плана падключаны дырэктары буйных вытворчасцей, акадэмікі, а таксама калектывы спецыялістаў, якія маюць вопыт аналагічнай работы за межамі Беларусі.**

*МІЖНАРОДНЫЯ ВЫСТАЎКІ*

**У Гандлёва-прамысловай палаце Рэспублікі Беларусь прайшла міжнародная выстаўка "Металаапрацоўка-93". Тут былі прадстаўлены металарэзныя станкі, кавальска-прэсавае абсталяванне, кантрольна-вымяральныя прыборы, сістэмы праектавання і многае іншае. А ўсяго ў Мінск прыехалі прадстаўнікі 66 прадпрыемстваў і фірмаў з краін СНД і далёкага замежжа: Германіі, Швейцарыі, Швецыі, Румыніі.**

**Акрамя спецыялізаваных семінараў, на выстаўцы адбыліся рабочыя сустрэчы і "круглыя сталы" кіраўнікоў станкабудаўнічых прадпрыемстваў былога Саюза, на якіх абмяркоўваліся праблемы аднаўлення парушаных эканамічных сувязей паміж рэгіёнамі, заводамі, фірмамі.**



*ФАКТ І МІНІ-КАМЕНТАРЫЙ*




**Спачатку было запрашэнне: за дзень да святкавання 8-га Сакавіка жыхары многіх дамоў беларускай сталіцы знайшлі ў сваіх паштовых скрынках лісточкі паперы з заклікам прыняць удзел у шэсці-пратэсце супраць росту цэн, карупцыі, беспрацоўя, злачыннасці. На плошчу перад Домам афіцэраў запрашаліся не толькі жанчыны, але і іх сем'і. Пад заклікам стаяў подпіс — "Рух за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць". І вось некалькі соцень мінчан восьмага сакавіка накіраваліся на плошчу. Праўда, многія з іх, расчараваныя ўбачаным і пачутым, палічылі за лепшае вярнуцца дамоў.**

**Расчаравацца была прычына. Ля Дома афіцэраў над адасобленымі групоўкамі арганізатараў і ўдзельнікаў шэсця-пратэсту луналі чырвоныя сцягі — ніводнага дзяржаўнага, беларускага. Як не было ніводнага беларускага слова на транспарантах.**

**Ужо з першых крокаў задуманай, але кепска арганізаванай акцыі стала ясна: сацыяльнымі пытаннямі тут і не пахне, яны поўнасцю замяніліся палітычнымі. І ў гэтую гульню былі ўцягнуты і дзеці. Ім дзядулі і бабулі, бацькі ўручылі лозунгі з патрабаваннямі разабрацца з тымі, хто "разваліў СССР". Называліся і канкрэтныя прозвішчы: Ельцын, Шушкевіч, Краўчук. Праўда, хоць і вучацца дзеці ў школах, але ні адзін з іх так і не адказаў на пытанні журналіста, якія пасады займаюць пералічаныя людзі, чаму вінаваты яны ў развале Саюза і інш.**

**Хто павярнуў задуманае мерапрыемства ў такое рэчышча, стала зразумела, калі запрацаваў гучнагаварыцель, калі ў калону шэсця сталі "барацьбіты за дэмакратыю". Гэта былыя кіраўнікі гаркома, райкомаў партыі. І не выпадкова пад іх дыктоўку гучалі здравіцы ў гонар СССР, камуністычнай партыі, КПБ, "інтэрнацыянальнай дружбы" былога Саюза. Удзельнікі шэсця, якія прайшлі ад Дома афіцэраў да плошчы Незалежнасці ў Мінску, сваімі паводзінамі ў нейкай ступені зняважылі свята жанчын, бо большасць іх спадзявалася на іншы сцэнарый. І вельмі шкада, што ён быў распрацаваны не па правілах сапраўднай дэмакратыі, а была зроблена спроба павярнуць назад незваротныя працэсы. Ці не падобна гэта на гульню, у якой адсутнічаюць правілы...**

*ШТО СКАЖА ПРАКУРОР?*

## В.КЕБІЧ ШУКАЕ АБАРОНЫ

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В.Кебіч 9 сакавіка гэтага года звярнуўся з заявай да Генеральнага пракурора Беларусі В.Шаладонава. Прычынай для заявы прэм'ер-міністра паслужылі апублікаваныя ў час яго хваробы ў маскоўскай газеце "Коммерсант дейли", у "Народнай газеце", а таксама перададзеныя па радыёпраграме "Маяк" і тэлебачанню "Астанкіна" паведамленні, у якіх са спасылкай на крыніцы, "блізкія да МУС", сцвярджаецца, што сваякі прэм'ера замешаны ў непрыстойных справах, маюць дачыненне да атрымання хабару і г.д.**

**"Катэгарычна адхіляю такія выдумкі, — указвае ў заяве В.Кебіч. — Расцэньваю іх як спробу зняславіць маю сям'ю, мяне, а, значыць, кінуць цень на ўрад Беларусі. Асабіста мне ясныя як прычыны, так і крыніцы такіх правакацый. За ўсім гэтым стаяць тыя, каму хацелася б дыскрэдытаваць узяты ўрадам курс на паступовае рэфармаванне эканомікі, сацыяльную абарону людзей, хто зацікаўлены ў тым, каб узарваць стабільную абстаноўку ў рэспубліцы. Гэта амаральныя і брудныя прыёмы палітычнай барацьбы.**

**Расцэньваю такія дзеянні як небяспечныя для нашай дзяржавы. Прашу ў сувязі з гэтым пракуратуру правесці праверку распаўсюджваемых паведамленняў і прыняць меры ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь".**

*АХВЯРАМ НАЦЫЗМУ*

## КАМПЕНСАЦЫЯ ЗА ПАКУТЫ

**Старшыня Савета Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч даручыў камітэту па сацыяльнай абароне ваеннаслужачых, асоб радавога і кіраўнічага саставу органаў унутраных спраў, воінаў-інтэрнацыяналістаў, звольненых у запас (адстаўку), і членаў іх сямей падрыхтаваць устаноўчыя дакументы для рэгістрацыі ў горадзе Мінску фонду "Узаемаразуменне і прымірэнне", які будзе займацца пытаннямі грашовай кампенсацыі ахвярам нацысцкіх праследаванняў у гады другой сусветнай вайны. Фонд ствараецца ў адпаведнасці з сумеснай заявай федэральнага канцлера ФРГ Гельмута Коля і прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына ад 16 снежня 1992 года.**

**Урад ФРГ выказаў гатоўнасць у рамках гуманітарнага ўрэгулявання ўнесці аднаразовы фінансавы ўклад на агульную суму 1 мільярд нямецкіх марак у фонды "Узаемаразуменне і прымірэнне", якія будуць створаны ў Беларусі, Расіі і на Украіне. Размеры выплат у кожны з фондаў будуць вызначаны пасля ўзгаднення паміж беларускім, расійскім і ўкраінскім бакамі. Сродкі фондаў прызначаюцца для былых савецкіх грамадзян, якія падвергліся праследаванням з боку нацыянал-сацыялістычнага рэжыму.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

НА ПЛЕНУМЕ ЦК і Кантрольнай камісіі КПБ прынята рашэнне аб скліканні ў красавіку XXXII пазачарговага з'езда КПБ. Самае галоўнае, эканамічная праграма партыі не будзе абмяркоўвацца на з'ездзе, таму што такой праграмы ў камуністаў пакуль няма.

50-ГОДДЗЮ Асвейскай трагедыі прысвечаны былі Дні памяці, якія прайшлі ў Верхнядзвінскім раёне. У 1943 годзе фашысцкія карнікі і іх памагатыя латышскія спецыяльныя фарміраванні па барацьбе з партызанамі выпалілі дашчэнту вёскі і мястэчкі былога Асвейскага раёна і саму Асвею. Загінулі тысячы бязвінных жыхароў — старыя, дзеці, жанчыны.

ФАКУЛЬТЭТ журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, магчыма, з цягам часу трансфармуецца ў Інстытут журналістыкі. Такі статус прадугледжаны ў праекце канцэпцыі развіцця інфармацыйнай прасторы, які мае Міністэрства інфармацыі Беларусі. Плануецца адкрыць 4 факультэты: рэпарцёрскі, аналітычнай журналістыкі, завочны і факультэт прафесійнага ўдасканалення.

УСЛЕД за Кобрынскім інструментальным брыльянтавую зорку якасці атрымае Брэсцкі завод бытавой хіміі і Добрушскі фарфоравы. Такое рашэнне прынята міжнародным камітэтам па маркецінгу ў Мехіка. Гэтым прадпрыемствам прадастаўляецца права маркіраваць сваю прадукцыю міжнародным знакам "ТМ".

# ДЗЕСЯЦЬ ТЫСЯЧ ПАЦЫЕНТАЎ

Параўнальна нядаўна тут было поле. Бліжэй да мікрараёна Курасоўшчына вясной буяў калгасны сад, зелянела рунь. Было некалькі прыватных хацін, частка з якіх яшчэ засталася і сёння, але нібы замаскіравалася, схавалася за высокія будынкі, што ланцужком працягнуліся на многія сотні метраў уздоўж кальцавой дарогі з Курасоўшчыны да Слуцкай шашы.

Адзін з будынкаў трохі выдзяляецца ў тым ланцужку. Па сваёй першапачатковай задуме тут павінна была размясціцца звычайная дзіцячая бальніца для абслугоўвання юных пацыентаў сталічнага мікрараёна. Але з цягам часу функцыі яе пашырыліся. Сёння гэта ўжо нават не гарадская лячэбная ўстанова, а без перабольшання бальніца рэспубліканскага значэння. Чаму так адбылося?

— Свайго першага пацыента, — расказвае галоўны ўрач бальніцы Людміла Дрыц, — мы прынялі пятнаццаць гадоў назад. Так што мы ўжо адзначылі свой маленькі юбілей. Цяпер жа штогод тут лечацца каля дзесяці тысяч дзяцей. Бальніца працуе ў вельмі напружаным рытме. Ён прадыктаваны шэрагам абставін. Галоўная з іх — сітуацыя пасля чарнобыльскай катастрофы. Вы ж ведаеце, як востра паўстала праблема лячэння хворых на запаленне шчытападобнай залозы з Гомельшчыны. Прыйшлося нам, як кажуць, перабудоўвацца на хаду. І вось ужо мы расшыраем эндакрыналагічнае аддзяленне. Ствараем лораддзяленне. Хачу падкрэсліць: такое лораддзяленне адзінае ў нашай рэспубліцы па ўзроўню аснашчэння, спецыялізацыі ўрачоў. Гэта дапамагае лячыць дзяцей, якія пакутуюць ад моцнага насавога крывацёку. Часам неасцярожнасць дзяцей, нядбаласць бацькоў прыводзяць да непапраўнага. Да нас паступаюць пацыенты, якія праглынулі шпільку, цвік, іншы вельмі небяспечны для здароўя і жыцця дзіцяці прадмет. Больш кваліфікаванай і своечасовай дапамогі такому пацыенту не акажуць нідзе ў рэспубліцы. Толькі ў трэцяй клінічнай.

Расказала Людміла Сцяпанаўна і аб супрацоўніцтве бальніцы з Мінскім медыцынскім інстытутам: у трэцяй праходзяць падрыхтоўку ўрачы-інтэрны, медыцынскія сёстры. Дарэчы, многія з іх потым застаюцца тут працаваць.

Вядома ж, у галоўнага ўрача галава ідзе кругам ад клопату і розных праблем. А іх нямала. Працэсы лячэння не заўжды кароткачасовыя, а ўсім вядома, як цяжка малым быць без бацькоўскай ласкі. Таму вырашана ўзвесці дадатковую прыбудоўку да галоўнага корпуса, каб кожная маці з дзіцем да трохгадовага ўзросту магла знаходзіцца побач.

У наш час рашаць гэтыя і іншыя праблемы вельмі цяжка. Хаця застаецца надзея, што задуманае здзейсніцца. Што ні кажыце, а 3-я дзіцячая гарадская клінічная бальніца сталіцы сёння з'яўляецца адной з вядучых медыцынскіх устаноў Рэспублікі Беларусь.

Жанна ПРАЦЬКО.

НА ЗДЫМКАХ: галоўны корпус бальніцы; загадчык рэанімацыйнага аддзялення В. БАРАШ і асістэнт кафедры педыятрыі А. ХАРАМАНЕНКА; старшая медсястра Т. ЦУКАНАВА з юнымі пацыентамі.

Фота Віктара СТАВЕРА.







# ТОЛЬКІ СУМЛЕННАЯ ПРЭСА СВАБОДНАЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Другі напрамак нашай дзейнасці — юрыдычнае і прававое забеспячэнне ўсіх працэсаў, звязаных з дзейнасцю сродкаў масавай інфармацыі. Для гэтага мы і працуем над законам, які забяспечыць свабоду слова і рэальную заканадаўчую падтрымку ўсім сродкам масавай інфармацыі.

І трэці напрамак нашай дзейнасці — гэта матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне. У нас зараз вельмі цяжкае становішча: папера, фарбы, кардон — усё завозіцца з Расіі. Кірунак на самазабеспячэнне мы ўзялі ўжо даўно. Хаця, канешне, я лічу гэта не вельмі разумным, таму што ва ўсім свеце існуе падзел працы, і колькі б мы ні рабілі намаганняў вынайсці якасную паперу, у нас няма сваёй цэлюлозы. Да таго ж, у Беларусі, калі пашукаць, дык знойдуцца станкі, якім па сто год і болей.

**— Раскажыце, калі ласка, пра дзейнасць прыватных газет, часопісаў і выдавецтваў.**

— Раней дзяржаву крытыкавалі за тое, што яна была манапалістам сродкаў масавай інфармацыі. Каб убачыць, які стан гэтай сферы ў нас сёння, давайце звернемся да канкрэтных лічбаў. На 1 лютага гэтага года ў Міністэрстве інфармацыі зарэгістравана 636 газет і часопісаў. За ўвесь час існавання міністэрства мы нікому не адмовілі ў рэгістрацыі газеты, часопіса ці тэлепраграмы, і амаль усе яны працягваюць існаваць. Ёсць адно выключэнне — у адпаведнасці з законам пасведчанне выдаецца на год, і калі за гэты тэрмін газета ці часопіс ні разу не выходзяць — пасведчанне анулюецца.

**— А хто канкрэтна выступае заснавальнікам новых сродкаў масавай інфармацыі?**

— Групы грамадзян або прыватныя асобы выступаюць заснавальнікамі 80 газет і часопісаў. Грамадскія арганізацыі — 74, рэлігійныя арганізацыі заснавалі 10 выданняў, малыя прадпрыемствы і кааператывы — 60, самі калектывы рэдакцыі — 57, асацыяцыі, фірмы, акцыянерныя таварыствы — 59. Так што, як бачыце, росквіт думак. І калі б нехта сёння захацеў манапалізаваць права імі кіраваць, думаю, што гэта было б немагчыма.

**— А ці не з'яўляецца фінансаванне асобных выданняў Саветам Міністраў і Міністэрствам інфармацыі якраз сродкам кіравання прэсай і спробай яе манапалізаваць?**

— Скажыце, ці магло б выжыць сёння без дзяржаўнай падтрымкі хаця б адно літаратурнае выданне ці само выдавецтва "Полымя"? А калі дзяржава або наша міністэрства напрамую фінансуе часопісы "Маладосць" ці "Полымя", як вы думаеце, мы дыктуем ім, што друкаваць? Няўжо Савет Міністраў, які з'яўляецца заснавальнікам часопіса "Вожык", загадвае яго кіраўніцтву, якія карыкатуры маляваць і змяшчаць? Мне здаецца, што гэта, мякка кажучы, смешна. А з другога боку, у былыя часы газета "Літаратура і мастацтва" цалкам фінансавалася з бюджэту, але яны змаглі стаць знакамітым "ЛіМам", мелі свой твар і рабілі сваю палітыку, якая была апазіцыйнай да тых уладных структур, што тады існавалі, асабліва да партыі. Ну, даставалася ім на арэхі, ну, было часам несаладка галоўнаму рэдактару, але ж "ЛіМ" заставаўся "ЛіМам". Дык ці толькі ў грошах справа? Можа, усё ж такі пазіцыя газеты і пытанні яе выжывання залежаць ад журналістаў, якія там працуюць, ад іх здольнасцей і таленту?

**— А каму аказваецца падтрымка ў першую чаргу?**

— На мой погляд, дзяржава павінна падтрымліваць тыя напрамкі, якія з'яўляюцца для яе прыярытэтнымі. А сёння гэта беларускамоўныя выданні, бо сітуацыя ў рэспубліцы зараз такая, што калі б мы адпусцілі "на вольные хлеба" кнігарні, выдавецтвы, друкарні, то беларускую кнігу мы не атрымалі б увогуле. Яна сёння стратная для ўсіх. Любое выдавецтва, якое зараз выдае кнігу на роднай мове, нясе страты, і таму дзяржава пакрывае 50 працэнтаў выдаткаў, на дзіцячую кнігу — нават 75 працэнтаў, а для даведачнай літаратуры мы будзем шукаць магчымасць стопрацэнтнай датацыі. Дзяржава выбірае тыя прыярытэты, якія патрэбны, каб нам сапраўды стаць незалежнымі, каб адрадзіць сваю мову і культуру. А фінансаваць усё падрад немагчыма, і хаця нам часта нагадваюць, што грошы, якімі мы распараджаемся, — гэта грошы падаткаплацельшчыкаў, так, падаткаплацельшчыкі плацяць за ўсё, але ж гэта і ёсць задача дзяржавы выбіраць, што на іх будаваць: завод медпрэпаратаў ці ваенны завод, што друкаваць — дзіцячую літаратуру ці Чэйза.

**— Якім вы бачыце далейшы лёс беларускамоўнай прэсы? Ці зможа яна выжыць у сённяшніх умовах?**

— Калі б мы не верылі ў яе будучыню, дык не было б сэнсу ва ўсім, што мы зараз робім. Верым, спадзяёмся і шукаем шляхі яе падтрымкі. Так, нас турбуе, што з 636 газет і часопісаў толькі 142 на беларускай мове, і перад тым як зарэгістраваць выданне, з кожным заснавальнікам, які абірае рускую мову, мы абавязкова гутарым і агітуем выходзіць на беларускай альбо хаця б на двух мовах.

**— А ці падабаецца вам самому, калі назва газеты напісана па-беларуску, а ўсё астатняе ў ёй па-руску? Вось вам, маўляў, "шыльда", каб не чапляліся, а мы ўсё роўна будзем па-руску.**

— Ведаеце, гэта ж не ад добрага жыцця такія "змешаныя" выданні — таксама нейкі незразумелы шлях, у цывілізаваных краінах такога няма. Але хай у такіх газетах хаця б так прысутнічае беларуская мова. Можа тым самым мы прывучым усіх ставіцца да яе нармальна. Я гляджу на гэта як на адзін са шляхоў адраджэння мовы.

**— Як вы ставіцеся да камерцыйнай дзейнасці нашых газет, часопісаў? Журналістаў заклікаюць шукаць рэкламу, ёю запоўнены цэнтральныя развароты і старонкі нашых выданняў.**

— Камерцыйнай дзейнасцю прэса займалася ва ўсе часы, рэклама існуе паўсюль, яна павінна развівацца, але быць разумнай, каб камерцыя не пераважала над здаровым сэнсам і за ёю не знікла само выданне. Калі ж газета не хоча займацца камерцыйнай дзейнасцю — на здароўе, хай не займаецца. Канешне, калі ў яе ёсць за што жыць.

**— У апошні час вельмі ўскладнілася перасылка нашага "Голасу Радзімы" за мяжу, ды і саміх межаў стала значна больш...**

— З перасылкай і падпіскай зараз вельмі складана, але ж гэта праблема цалкам знаходзіцца ў кампетэнцыі Міністэрства сувязі. Мы, канешне, супрацоўнічаем з імі, але часам, бывае, і не знаходзім паразумення. Напрыклад, калі ў мінулым годзе складаліся каталогі падпіскі, па недагляду Міністэрства сувязі многія выданні туды не трапілі. Што ж датычыцца новых тарыфаў і платы за перасылку — таннейшымі яны не будуць, хаця і раней перасылка нашых кніг і газет за мяжу каштавала значна больш, чым самі выданні. Трэба шукаць нейкія новыя шляхі, але спыніць культурны абмен ніяк немагчыма. Любая форма супрацоўніцтва з далёкім і блізкім замежжам для нас сёння мае вельмі вялікае значэнне.

*БУДЗЬМА ТАКТОЎНЫМІ І ДОБРАЗЫЧЛІВЫМІ*

# ЯК ДЗЕЦІ АДНАГО НАРОДА

Адбыўся Сход беларусаў блізкага замежжа, напярэдадні яшчэ больш важная падзея агульнанацыянальнага значэння – Першы з'езд беларусаў свету. Абедзьве падзеі сваім унутраным пафасам перш за ўсё скіраваны на сцверджанне беларускага Адраджэння, на яднанне народа, на дапамогу Бацькаўшчыны дыяспары і, узаемна, замежных беларусаў адзінай для ўсіх Маці-Беларусі. Карацей кажучы, усталёўваюцца нармальныя для цывілізаваных краін дачыненні паміж людзьмі адной нацыі.

Аднак гэты, без сумнення, дабратворны для нашага Адраджэння паварот часамі сутыкаецца і з абыякавасцю, і з неразуменнем, і нават з пэўным супрацівам. Хіба гэта нармальна, што дасюль Згуртаванню беларусаў свету "Бацькаўшчына" так і не падшукана прыдатнае памяшканне, без чаго практычна немагчыма весці плённую і рознабаковую дзейнасць, дапамагаць дыяспары ў яе вельмі пільных патрэбах. Каб задавальняць гэтыя патрэбы – перасылаць беларускамоўную перыёдыку і кнігі, выязджаць у замежжа да беларусаў з канцэртамі, ладзіць там беларускія школы і г.д., – патрэбны немалыя фінансавыя сродкі. Аднак вялікую долю прыбыткаў ад нашай пакуль што сціплай гаспадарчай дзейнасці забірае назад дзяржава ў форме падаткаў. Вярхоўны Савет, вызваліўшы ад іх творчыя саюзы і некаторыя грамадскія арганізацыі, "Бацькаўшчыне" ў такім прывілеі адмовіў і пакуль *што на Зварот Сходу беларусаў* блізкага замежжа выправіць такі недагляд станоўча не адрэагаваў.

Сход выявіў мноства складаных і нават балючых праблем у беларусаў, што жывуць у краінах былога Саюза. Пра гэта павінны ведаць і грамадзяне ўсёй Беларусі, але, на жаль, сродкі масавай інфармацыі якраз па-належнаму і не асвятлілі тое, дзеля чаго, уласна кажучы, беларусы і з'ехаліся на свой першы сход. Газеты, якія асвятлялі яго працу, у асноўным спыніліся на пачатку, калі выступалі афіцыйныя асобы, лідэры грамадскіх арганізацый і партый, што дзейнічаюць тут, на Беларусі. Больш разгорнута і шырока весткі пра Сход падала толькі газета "Голас Радзімы" ды Беларускае радыё. Што ж датычыць тэлебачання, дык яго інфармацыя была настолькі скупой і прыблізнай, быццам падзеі адбываліся не тут, у стольным Мінску, а дзесьці на далёкіх Гавайскіх выспах.

Амаль усе рускамоўныя газеты, якія выходзяць на Беларусі (а іх сотні!), дружна адвярнуліся ад Сходу ці, як вядомая сваёй ультракамуністычнай пазіцыяй "Мы и время", адмежаваліся ад яго зласлівай рэплікай. На фоне такога стаўлення сімпатычнай выглядае пазіцыя "Знамени юности", якая асвятляла праблемы беларускага замежжа і напярэдадні, і пасля Сходу.

Перакананы: Беларусь і яе народ будуць адраджацца насуперак сілам, што не паступаюцца імперска-бальшавіцкімі прынцыпамі. Ды часамі дзівіць пазіцыя асобных людзей, якія ўяўляюць сябе ў ролі ці то лідэраў, ці актывістаў і спрыяльнікаў нацыянальнага Адраджэння, але аб'ектыўна ставяць патырчакі на яго не вельмі простым і лёгкім шляху. Не ўсім, на жаль, хапае разумення, што асноўнае сёння для беларускасці – замацавацца на здабытых пазіцыях і дзейнічаць з'яднана, бо сілы супраціву нашаму Адраджэнню і ў самой Беларусі пакуль што моцныя і, напэўна, што будуць вельмі ўсцешаныя, калі сярод адраджэнцаў пачнуцца звады і сваркі, імкненне асобных грамадскіх арганізацый і палітычных партый любым шляхам і сродкамі да лідэрства за кошт іншых. Але будзе больш чым неразумна распыльваць сілы на непатрэбную валтузню і спрэчкі ў час, калі іх трэба ашчаджаць і скіроўваць на стваральную, а не разбуральную для беларускасці дзейнасць. Таму мы паспрабуем па магчымасці далікатна, не называючы прозвішчаў, указаць на факты, міма якіх наша грамадская арганізацыя не мае права моўчкі прайсці. Адзін з іх датычыць нібыта атрыманага ад Беларуска-Амерыканскага Задзіночання факса, дзе сцвярджаецца, быццам БАЗА – адзін з самых моцных патрыятычных беларускіх асяродкаў на чужыне – з палітычных меркаванняў адмаўляецца браць удзел у будучым з'ездзе беларусаў свету. І хоць на тым "факсе" няма ні выхадных даных шаноўнай арганізацыі, ні подпісаў і нават прозвішчаў яе кіраўніцтва, знаходзяцца людзі, што ўсур'ёз успрымаюць гэтую фальшыўку, пачынаюць закіпаць вакол гэтага факта страсцямі, быццам у нас няма праблем сапраўды рэальных, на вырашэнне якіх можна з удзячнасцю пакласці свой імпэт і здольнасці...

Большай выверанасці, лічым мы, патрабуе пазіцыя аднаго беларускага пісьменніка, які нямала зрабіў для папулярызацыі эміграцыйнай літаратуры, але ў сваіх каментарах і выступленнях не заўсёды аб'ектыўна асвятляў шлях паваеннай беларускай эміграцыі, яе сённяшні стан і ролю ў агульнанацыянальным руху. Спашлёмся на публікацыю ў "ЛіМе" за 8 студзеня г.г., найбольш "ударнае" месца з якое пад назвай "Чарговы міф" перадрукавала і газета "Голас Радзімы". "Мушу зазначыць, – сцвярджае аўтар нататкі, – літаратурнай мовай там, за межамі Беларусі, валодаюць толькі лічаныя асобы". І гэта пра свядомую беларускую эміграцыю, якая, нягледзячы на яе штучную адлучанасць па віне былых СССР і БССР ад Бацькаўшчыны, насуперак усяму захавала вернасць нацыянальным ідэалам, сваёй культуры, традыцыям, мове. Арганічная беларускасць людзей на чужыне не "міф", а жывая сімпатычная рэальнасць, у якой не адзін раз пераконваліся тыя, каму даводзілася быць у беларускіх эміграцыйных асяродках, успрымаць усё на свае вочы і вушы без ранейшай ідэалагічнай зашоранасці. Таму тут асноўнае, каб мы адмовіліся ад прадузятасці, ад навешвання ярлыкоў, жадання штучна падзяляць народ на тых, хто жыве ў Беларусі і за яе межамі, вызначаць лепшых і горшых, сваіх і чужых, забываючы, што ўсе мы дзеці адзінай і непадзельнай Маці-Беларусі.

Калі кіравацца на такі арыенцір, дык, мабыць, магло б быць больш памяркоўным і тактоўным выступленне-адказ народнага дэпутата на змешчаны ў "ЛіМе" ліст прадстаўнікоў шасці аўтарытэтных беларускіх арганізацый Аўстраліі, дзе яны выказалі сваё стаўленне да выявы дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь. У нечым, магчыма, з гістарычнага пункту погляду, яны памыліліся, але ж нельга забывацца пра тое, што гэтыя людзі свята шанавалі "Пагоню" і ў той час, калі мы тут на Бацькаўшчыне не толькі што асцерагаліся насіць яе на грудзях, але і згадваць пра яе не асмельваліся!..

Дык будзьма, шаноўныя спадары, тактоўнымі, добразычлівымі і па вялікаму рахунку прынцыповымі! Давайце паводзіць сябе так, як і належыць дзецям аднаго народа.

**Яўген ЛЕЦКА,**
**старшыня Рады Згуртавання беларусаў**
**свету "Бацькаўшчына".**

## ДОБРАЕ ІМЯ ДАРАЖЭЙШАЕ ЗА БАГАЦЦЕ



**Вярнуць людзям добрае імя — за такую справу ўзялася Яўгенія Шапенка, кіраўнік Чачэрскага гісторыка-этнаграфічнага музея. З'яўляючыся старшынёй раённай камісіі па рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій, яна многа часу ўдзяляе вывучэнню розных дакументаў. Але галоўнае, вядома, сустрэчы з тымі, хто прайшоў усе жахі сталінскіх лагераў і сумеў застацца ў жывых, са сваякамі загінуўшых. Яўгенія Антонаўна лічыць сваім абавязкам не толькі пагутарыць з людзьмі, але і аказаць ім пасільную дапамогу.**

**НА ЗДЫМКУ: Я. ШАПЕНКА (справа) гутарыць з Е. ДРАБЫШЭЎСКАЙ і Пятром ХОМЧАНКАМ.**
**Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА.**

*ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ*

# У ЧЫМ ПРАЯВА ПАТРЫЯТЫЗМУ?

У адкрытым лісце ("Голас Радзімы N 52 за 24.12.1992 г. "Зноў пра двухмоўе") акадэмікі Сібірскага аддзялення Расійскай акадэміі навук – В. Капцюг і іншыя – падымаюць трывогу, што "без рускай мовы наша навука змарнее". Не буду прыгадваць тое, чым яны намагаюцца пераканаць Вярхоўны Савет Беларусі ў сваім выступленні. Хачу толькі паставіць пытанне: якая перспектыва развіцця самабытнасці ў народа, каторы даручыць сваю навуку чужой мове?

Сягоння мова цывілізаванага грамадства абапіраецца амаль цалкам на слоўнік навуковых тэрмінаў, бо навука стала неадлучным сродкам і гаспадарчага, і культурнага жыцця кожнага народа. Дык калі б згадзіцца – і то добраахвотна, чаго патрабуюць сібірскія акадэмікі, – аддаць навуку "вялікай рускай" мове, то што тады можам пакінуць беларускай мове? Бадай толькі тое, што было прадугледжана і раней – намаганні, каб яна знікла з паверхні зямлі беларускай.

Ёсць дзяржавы, нават меншыя за Беларусь, якія маюць сваю навуку і не баяцца, што не здолеюць з суседзямі дагаварыцца. Не баяцца таксама, што калі добрае нешта прыдумаюць, дык таго ніхто не заўважыць. Ці сібірскія акадэмікі не зацікаўлены веданнем чужых моў? Праўда, у нашым былым "лагеры" часам было падазроным, а нават і небяспечным карыстацца іншай, а не рускай мовай. Пераканаўся я сам у гэтым, будучы з дваццатку гадоў таму ў Беларусі. Але тая эпоха, думаю, ужо мінула.

Я ў Польшчы знаю шмат людзей, звязаных з рознымі галінамі навукі. Тут нельга ўявіць, каб вучоныя ў сваёй працы маглі абысціся без ведання некалькіх моў. Карыстаюцца імі ў даследаваннях і ў выданні публікацый, а таксама і навуковых зводках. Усё гэта тут лічыцца нармальным. Калі і Беларусь будзе ўжо сапраўды незалежнай і развітой дзяржавай, а яе навука на высокім узроўні, свет паклапоціцца гэта заўважыць. А погляд акадэмікаў, што ў вялікай краіне былых савецкіх рэспублік неабходна карыстацца выключна рускай мовай, ці не з'яўляецца доказам адсталасці сібірскіх вучоных?..

І ці ж не дзіўна, што цэлыя дзесяцігоддзі беларусаў усе пераконвалі, што іхняя мова зусім падобная да рускай і таму няма ніякага сэнсу яе захоўваць. Гаварылася часам, што беларуская мова – гэта толькі дыялект рускай. А тут вучоныя – і то з паходжання быццам беларусы – падкрэсліваюць, што беларуская мова з'яўляецца для рускіх мовай "недаступнай". Загадкавыя яны, гэтыя ўсе тэндэнцыі нашых добразычлівых суседзяў...

**А. МАЎЧУН.**

Польшча.

СТАРОНКА ПРА АРНАМЕНТ

# У КОЖНЫМ УЗОРЫ ВЯЛІКІ СЭНС

У кожную эпоху ў кожнага народа былі свае арнаменты. Яны былі сугучнымі свайму часу, стылю ці накірунку стылю ў мастацтве. Але больш за ўсё арнамент увасабляў у сабе лепшыя рысы традыцыйнага аздаблення, набываючы яскравую выразнасць і тыповасць нацыянальнага арнаменту. Многія даследчыкі лічаць яго своеасаблівым почыркам эпохі, сведкам яе мастацкіх асаблівасцей. Часта арнамент быў вяршыняй народнага мастацтва. Менавіта па асаблівасцях арнаментыкі вучоныя археолагі вызначаюць, да якой культуры, якому народу належаць тыя ці іншыя рэчы, знойдзеныя падчас раскопак.

Гісторыя арнаменту вельмі старажытная. Першабытны чалавек навучыўся ляпіць посуд з гліны, потым пачаў аздабляць яго кропкамі, рыскамі, лініямі. Кропкалінейны арнамент, бадай, самы імперычны. З'явіліся першыя прымітыўныя тканіны, іх таксама пачалі ўпрыгожваць. З часам арнамент ускладняўся, з'яўляліся новыя матывы, больш дасканалая пластычная выразнасць, малюнак набываў адмысловасць. У залежнасці ад кліматычных умоў і сацыяльнага развіцця таго ці іншага народа арнамент набываў адметныя рысы. Арнаментам упрыгожвалі творы выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, архітэктурныя збудаванні, прадметы хатняга ўжытку. У залежнасці ад матэрыялу арнамент выконваецца рознымі тэхнічнымі сродкамі. Найбольш выразна выяўлены асаблівасці беларускага арнаменту ў ткацтве, вышыўцы, разьбе па дрэву, кераміцы. Але ёсць таксама арнаменты плеценыя, набіваныя, гравіраваныя, маляваныя і іншыя.

Адкуль жа ўзяліся тыя ці іншыя выявы на арнаментах і што яны адлюстроўваюць? Перш за ўсё трэба сказаць, што любы арнамент выконвае дзве функцыі – семантычную, ці магічную, і эмацыянальна-псіхалагічную, ці эстэтычную.

Беларускі арнамент развіваўся пад уплывам украінскага, літоўскага, рускага і польскага арнаментальнага мастацтва, улічваючы геаграфічнае месцазнаходжанне Беларусі і ўзаемаадносіны паміж народамі. Нацыянальную адметнасць арнамент набыў у перыяд фарміравання беларускай народнасці (XIV–XVI стагоддзі). Найбольш распаўсюджаны тканы і вышываны. Амаль па ўсёй тэрыторыі Беларусі ўладарыць і цяпер арнамент геаметрычнага характару, у аснове якога ромб у розных варыянтах, які ў народзе часта называюць таксама "круг". Менавіта ромбападобны больш за іншыя захаваўся ад старажытнасці да нашых дзён.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

## АДНА З НЯЗГАСНЫХ ЗОРАК БЕЛАРУСІ

# КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ

КАЛІ гавораць пра вялікіх сыноў Беларусі, што найбольш поўна прадстаўляюць яе на сусветным форуме сацыяльнага і культурнага прагрэсу, то найперш называюць пяць імёнаў: Скарына, Каліноўскі, Купала, Колас, Багдановіч. У беларусаў мноства выдатных і высокіх імёнаў, але на першае месца памяць народа паставіла гэтыя. Пяць нязгасных зорак, вакол якіх і побач з якімі на небасхіле гісторыі месцяцца іншыя, часам не менш моцныя, не менш яркія.

Францыск Скарына "з слаўнага горада Полацка" прынёс беларусам (ды не толькі беларусам, але і ўсім усходнеславянскім народам, а таксама Літве) цуд кнігадрукавання, быў здзіўляюча рознабаковым дзеячам, згусткам творчай энергіі, гэтак характэрнай для тытанаў эпохі Адраджэння. Янка Купала і Якуб Колас сваёй высокай творчасцю і нястомнай дзейнасцю адлюстравалі масавы рух беларускага народа, абуджанага першай расійскай рэвалюцыяй, да свабоды і культуры, з'явіліся (побач з Максімам Багдановічам і іншымі паплечнікамі) сапраўднымі заснавальнікамі нацыянальнай літаратуры і літаратурнай мовы новага часу.

Усіх іх: і Скарыну, і Багдановіча, і Купалу, і Коласа, і іншых падзвіжнікаў культуры і прагрэсу — характарызуе трывалая, непарыўная повязь з народам, супадзенне накірунку іхняй дзейнасці з галоўнымі задачамі эпохі, з патрабаваннямі часу. Каліноўскі таксама самым цесным чынам быў звязаны са сваім часам. Час гэты — эпоха першай рэвалюцыйнай сітуацыі ў Расіі, славутая эпоха 60-х гадоў, эпоха падзення прыгонніцтва і складвання нацый. Ён унёс надзвычай буйны ўклад не толькі ў рэвалюцыйную тэорыю і практыку, але і ў беларускую культуру, маладую, вельмі маладую тады новую літаратуру Беларусі, стаў заснавальнікам нацыянальнай прэсы, першым класікам перадавой, мэтанакіраванай, апаляючай публіцыстыкі.

Як бачым, буйных людзей нараджалі буйныя, пераломныя эпохі. У гэтых людзей ёсць нямала агульнага. У той жа час кожны з іх меў свае непаўторныя індывідуальныя рысы. Калі Скарына — увасоблены дух культурна-навуковага творчага шукання, усепранікальнай бясстрашнай думкі, калі Купала і Колас, як і роўнавялікі ім Багдановіч, ва ўсёй шырыні і багацці прадставілі мастацкі геній свайго народа, то наш Кастусь як бы ўвасабляе гераічны, рэвалюцыйны пачатак беларускай гісторыі.

Каліноўскі пражыў усяго 26 гадоў, прыкладна трэцюю частку таго, што звычайна адпускаецца людзям. Дзве даты — 1838 і 1864. Пачатак і канец. Як ссунуты, спрасаваны цесныя рамкі яго фізічнага быцця. А ў зорны яго час, у 63-м годзе, яму было якраз дваццаць пяць. Нярэдка людзі ў гэтым узросце яшчэ толькі распачынаюць свой жыццёвы разбег, яшчэ поўняцца няяснымі маладымі надзеямі і чаканнямі, а ён ужо дасягнуў вяршыні, ужо выканаў фактычна сваё жыццёвае наканаванне, і аставалася толькі годна сысці са сцэны. Ён зрабіў усё, як трэба.

Самая буйная падзея яго жыцця — паўстанне. Для яго гэта было не толькі пасільным (як аказалася, вельмі буйным) удзелам у нейкіх складаных дзеяннях, звязаных з падрыхтоўкай і ажыццяўленнем узброенага выступлення, але і велізарным душэўным уздымам, сапраўдным азарэннем. Гэта як быццам пра яго сказана: "Восстань... и вижды!.." Зразумела ж, ён бачыў у 63-м годзе далей за іншых, ён стаў душой і галоўным рухавіком паўстання, увасабленнем лепшых ягоных рыс.

У паўстанні так або інакш прымалі ўдзел тысячы, бадай, дзесяткі тысяч людзей. Чым жа ён вылучаўся? Як здолеў ён у адпушчаныя яму лёсам кароткія чвэрць стагоддзя зрабіць так многа, прыняць на свае маладыя плечы столькі, што дагэтуль да яго асобы, дзейнасці, спадчыны зноў і зноў звяртаюцца не толькі даследчыкі многіх спецыяльнасцей, але і мастакі, паэты — выразнікі самых актуальных патрэбнасцей грамадства. Асоба Каліноўскага заўсёды выклікала цікавасць грамадскую.

Так было яшчэ пры жыцці. Сваёй неардынарнасцю, непадобнасцю ён выбіваўся з агульнага шэрагу, прыцягваў і адштурхоўваў, але болей прыцягваў. Сустрэча з ім была заўсёды сустрэчай з чымсьці незвычайным і значным. Таму ёсць сведчанні Гейштара і многіх іншых. "Толькі адзін рэвалюцыянер, Канстанцін Каліноўскі, быў камісарам Гродзенскай губерні, і таму толькі там існавала нейкая адміністрацыя", "чалавека гэтага нельга было ні напалохаць, ні збіць з панталыку...", "ён адзін каштаваў сотняў...", "вельмі светлая і здольная галава...", — такімі і падобнымі прызнаннямі, ацэнкамі напоўнены выказванні сучаснікаў. Яго параўноўвалі з Маратам і Рабесп'ерам, самымі каларытнымі, легендарнымі постацямі Вялікай французскай рэвалюцыі, жывой памяццю аб якой яшчэ поўнілася XIX стагоддзе, што пачало, праўда, падазраваць недастатковасць яе цудоўных лозунгаў.

У чым разгадка магутнага ўплыву Каліноўскага? Ужо сама знешнасць яго была характэрная. "Рысы твару буйныя і грубыя, вельмі вялікі рот", — апісвалі відавочцы. Калі ўгледзецца ў фатаграфіі (а іх, як і іншых сведчанняў, на вялікую прыкрасць, захавалася няшмат), то можна ўбачыць у іх сілу і годнасць, своеасаблівую мужчынскую прыгажосць. Гэта добра зразумелі мастакі, якія прапанавалі свету дзесяткі сваіх мадэлей-прачытанняў вобраза вялікага Кастуся.

Дарэчы, як гэта ні дзіўна, здаецца, ён не быў нават выдатным прамоўцам. Хутчэй наадварот. "Цяжкасць у прамаўленні вялікая", — ёсць нават і такое сведчанне, якое адносіцца, магчыма, да канкрэтнага выпадку — разлютаванай спрэчкі на адным з пасяджэнняў падпольшчыкаў, што моцна ўсхвалявала Каліноўскага.

Як бы там ні было, галоўны сакрэт прыцягальнасці і ўздзеяння Каліноўскага трэба шукаць у нечым іншым.

Думаецца, што гэта такія рысы яго асобы, як гістарычная дальнабачнасць, страснасць, перакананасць і цэльнасць натуры, вернасць народу і ідэалам вызваленчай барацьбы, а, галоўнае, справядлівасць.

Яго незвычайны характар відаць у той выдатнай упартасці, з якой выдавалася і пашыралася па краі "Мужыцкая праўда" — нягледзячы на ўсе перашкоды і цяжкасці, нумар за нумарам, усе сем нумароў. У той непахіснасці, з якой ён працягваў справу паўстання, калі жыццё чарговы раз (колькі іх было — гэтых разоў?) разбурала ўсе яго планы, калі многім здавалася, што ўсё ўжо згублена і самы час шукаць уласнага ратунку. У той мужнай годнасці, з якой ён прыняў арышт і паводзіў сябе на следстве і судзе. У яго апошняй заяве, "што калі грамадзянская шчырасць складае дабрадзейнасць, то шпіёнства апаганьвае чалавека, што грамадства, устроенае на іншых пачатках, не вартае гэтай назвы... Прычыны і вынікі мною добра абдуманы, а ўсведамленне гонару, уласнай годнасці і таго становішча, якое я займаў у грамадстве, не дазваляюць мне ісці іншым шляхам". Бог ты мой! Як непадобна ўсё гэта на разгубленасць і трымценне перад царскімі ішчэйкамі якога шляхціца, што прымкнуў да паўстання без цвёрдых унутраных перакананняў ("пайшоў, таму што ўсе пайшлі" — такі матыў знаходзім у дзесятках, сотнях следчых спраў 1863 года). Пяром Каліноўскага кіравала ў гэты момант веліч духу, характэрная для самых выдатных рэвалюцыянераў усіх часоў і народаў. Тут чуецца як бы голас самой гісторыі. Той жа характар, тая ж веліч духу бачны і ў развітальных пісьмах да народа з ператвораных у турму дамініканскіх муроў. І ў яго неадшліфаваным, шурпатым, але ўсё роўна здзіўляюча магутным вершы да любімай — і зноў жа да народа. І ў той цвёрдасці, з якой ён узышоў на свой эшафот. "У нас няма дваран, усе роўныя". Гэтыя словы годна завяршылі яго жыццё, хоць мы ніколі не даведаемся, ці былі яны загадзя вырашанымі або раптоўным імпульсам.

Але вернемся да таго, якім ён бачыўся навакольным. Следчая камісія, прызвычаеная мець справу, як правіла, з больш слабымі, палічыла яго аслепленым сваімі ідэямі рэвалюцыянерам-фанатыкам, што ўзганарыўся да апошняй ступені. Што ж — ганарыцца было чым. Але галоўнае — гэта ён зразумеў сваім маладым, але здзіўляюча сталым і праніклівым розумам — заключалася ў тым, каб не толькі зрабіць патрэбную справу, але і не даць ворагам запэцкаць яе.

Людвіцы Радзевіч, сястры Марыські Ямант, да якой звернуты, па ўсім, апошні верш Каліноўскага, запомніліся яго спакойная мужнасць, маральная чысціня, яго "выключная, хоць і не вытанчаная натура".

Цікавае сведчанне паплечніка (па арганізацыі, але не па поглядах) і аднафамільца Юзафа Каліноўскага: "...я бачыў у ім чалавека рашучага, прадпрымальнага, які сваёй дзейнасцю і адданасцю справе як бы папракаў іншых у баязлівай асцярожнасці і слабасці. Сама небяспека ягонага становішча, прыдаючы яму нібы характар гераічнасці, магла прыцягваць да яго іншых".

Якуба Гейштара, лідэра партыі "белых" у Літве і на Беларусі, здзівіла ў свой час не толькі прадуманая антышляхецкая канцэпцыя Каліноўскага, але і адкрытасць яго характару. "Пры першым жа знаёмстве ён даводзіў мне, што ўдзел шляхты і памешчыкаў у паўстанні быў бы не толькі непатрэбным, але і шкодным. Народ сам заваюе сабе незалежнасць і запатрабуе ўласнасці ў памешчыкаў... Калі б яна, шляхта, і згінула, гэта было б толькі заслужанай карай і краіна нікольki б ад гэтага не страціла". І гаварылася тое ў вочы кіраўніку памешчыцка-ліберальнай партыі, які менавіта на шляхту рабіў галоўную стаўку ў сваім палітычным пасьянсе. Ліберал Гейштар быў устрывожаны і ў той жа час, як гэта ні дзіўна, крануты. Усё, што ён даведаўся, паводле прызнання Гейштара, сведчыла "аб рэзкай шчырасці Каліноўскага, якая калі і шакіравала, то была разам з тым адзнакай моцнага і праўдзівага характару".

Шляхецкі рэвалюцыянер Кучэўскі-Порай, той самы, які быў невысокай думкі аб прамоўніцкіх здольнасцях Каліноўскага, расказвае пра падпольнае пасяджэнне рэвалюцыянераў у Вільні незадоўга да паўстання. Рознагалоссяў было мноства. Кожны, як сляпы за плот, трымаўся сваёй праўды, прапаноўваў свой шлях вызвалення радзімы ад царызму, але найбольш прынцыповыя рознагалоссі былі з Каліноўскім, які цвёрда стаяў на пазіцыях рэвалюцыйнага дэмакратызму і, паводле мудрагелістага выразу мемуарыста, "маючы за плячыма вопыт зносін з народам, шукаў у пакутах паднявольнага рабства тую сілу, якую ён, як рыцар, што змагаецца ў імя растаптаных чалавечых правоў, мог узняць на паўстанне". Трохі мудрагеліста — і ўсё ж сэнс дастаткова зразумелы. Неабходная для перамогі над ворагам сіла заключаецца ў самім прыгнечаным становішчы народа — вось адкрыццё Каліноўскага і яго аднадумцаў. Сіла пратэсту роўная сіле прыгнёту. Каліноўскі да канца выкарыстаў на гэтым пасяджэнні магчымасць выказацца, што яму выпала. Ён спрачаўся больш за ўсіх і літаральна нікому не даў гаварыць (а яшчэ кажуць — кепскі прамоўца). Умовіліся так: спачатку ўсе астатнія дамовяцца паміж сабой, а потым ужо з Каліноўскім. І ўсё-такі абаянне асобы Каліноўскага было такое вялікае, што праз некаторы час ён стаў галавой, старшынёй падпольнага Літоўскага камітэта, які рыхтаваў паўстанне ў Літве і на Беларусі. Так ацэнена была неўтаймоўная грамадская энергія Каліноўскага, яго адданасць рэвалюцыйнай справе.



Карціна Пётры СЕРГІЕВІЧА "Каліноўскі".

Мне ўжо даводзілася гаварыць, што ў дзейнасці Каліноўскага кідаюцца ў вочы дзве галоўныя, вызначальныя рысы: 1) яго заўсёдная арганічная патрэбнасць адстойваць, ставіць у аснову асноў народныя інтарэсы, глядзець на падзеі з пункту погляду сялянства і 2) не менш пастаянная прывязанасць да беларускай мовы. Там, дзе ён з'яўляўся, узнікалі і множыліся беларускія газеты і праклaмацыі.

Няцяжка заўважыць, што рысы гэтыя ўзаемна звязаныя, што другое вынікала з першага. Выхадзец з дваранства, ён, незалежна ад сваіх сямейных і класавых сувязяў, а можа быць, часам і незалежна ад сваіх асабістых сімпатый і антыпатый, выказаў дваранству прысуд як бы ад імя гісторыі. "Перш за ўсё нам трэба знішчыць гэтую гнілую, разбэшчаную касту, якую называюць дваранствам", — заяўляў ён. Яму прыпісваюць іншы раз максімалісцкі кліч: "І хай сякера не спыніцца нават над калыскай панскага дзіцяці", але гэта, зразумела, ужо гіпербала, легенда, пушчаная ў свет ягонымі палітычнымі праціўнікамі. Іншая справа, што абапіралася гэтая гіпербала на рэальнасць, яна выдатна перадае як страх перад Каліноўскім усяго памешчыцка-самадзяржаўнага лагера, так і бескампраміснае стаўленне "атамана мужыцкай праўды" да класа феадальных эксплуататараў, ужо асуджанага гісторыяй. Мы ведаем, што на справе Каліноўскі стаяў якраз за рэвалюцыйную законнасць, супраць самавольства ў актах сацыяльнага правасуддзя.

Выпушчаная ім на пачатку ўзброенага выступлення "Паўстанцкая інструкцыя" патрабавала рэвалюцыйнага суда над найбольш злоснымі прыгнятальнікамі працоўных у прысутнасці сабранага народа. Як бачым, гэта патрабаванне рэвалюцыйнага парадку і публічнасці (нездарма Кастусь — юрыст па адукацыі). Разам з тым несумненна, што Каліноўскі не толькі падзяляў высунуты рэвалюцыйнай дэмакратыяй лозунг сялянскай рэвалюцыі, але быў адным з галоўных яго звестуноў. Крызіс прыгонніцтва дасягнуў у часы Каліноўскага апошніх межаў. Чаша народнага цярпення перапоўнілася. Сялянская рэвалюцыя была грознай рэальнасцю, адзнакай часу. "Да сякеры клічце Русь!" — з асаблівай сілай прагучала ў славутым "Пісьме з правінцыі", апублікаваным у 1860 годзе ў герцэнаўскім "Колоколе" за подпісам "Рускі чалавек". Псеўданім гэты дагэтуль не раскрыты. У якасці мяркуемага аўтара гэтага найярчэйшага дакумента эпохі называліся Чарнышэўскі, Дабралюбаў і нават Шаўчэнка. Мне ж, грэшнаму, калі перачытваю "Пісьмо...", абавязкова прыходзіць у галаву наш Кастусь. Пафас "Пісьма..." настолькі блізкі Каліноўскаму, што яго таксама можна было б разглядаць у якасці магчымага аўтара гэтага выдатнага дакумента, калі б не подпіс, які, што б там ні было, указвае ўсё-такі на нацыянальную прыналежнасць аўтара, ды некаторыя іншыя дэталі, найперш біяграфічнага характару.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

(Працяг будзе).

# ТЭАТР — І АНІЧОГА, АКРАМЯ ТЭАТРА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

І першая роля, якую ён выканаў з бляскам, адразу зрабіла яго адным з галоўных творцаў славы Першага БДТ. Прэм'ера мальераўскага "Мешчаніна ў шляхецтве" адбылася ў сакавіку 1924 года. Амаль адначасова з першай гадавінай сына Барыса.

Мабыць, поспех мальераўскага Каўеля ў беларускім "Мешчаніне..." быў такі гучны і столькі выслухаў артыст віншаванняў, што пра шчасце і не грэх было сказаць добрае слова. Калі сын адзначае свой трэці дзень нараджэння, яго бацька заваёўвае сэрцы мінчукоў такім агністым выкананнем ролі Блазна ў "Кавалю-ваяводзе", што сам Е.Міровіч апладзіруе яму разам з глядзельнай залай... І яшчэ адзін радок з біяграфіі Уладамірскага-старэйшага: у 1930 годзе ён разам з тэатрам едзе ў Маскву на Усесаюзную алімпіяду нацыянальных тэатраў і разам з Уладзімірам Крыловічам бліскуча выступае ў спектаклях "Гута" і "Міжбур'е". Сямігадовы Барыс таксама там, у Маскве. Сын быў сведкам бацькавай славы ці не ў самым тэатральным горадзе свету...

"Шчас-це..." Але быць падобным да такога бацькі і мець такі ж вулканічны тэмперамент... Я помню, якім паўставаў малады Уладамірскі перад гледачамі. Плячыстым, мажны, ладны, Барыс свабодна адкідаў назад светлыя валасы, як жытнёвую хвалю, і глядзеў на вас прамяністымі і яснымі вачыма, напоўненымі дзівосным унутраным зззяннем. Свабодная пластыка ў рухах, выразная сцэнічная мова. Да таго ж яшчэ гэта заўсёдная гатоўнасць змяніць аблічча, зажыць нечаканым тэмпераментам, засвоіць чужыя звычкі. Сёння ты — аршанскі падпольшчык, тайны паплечнік Канстанціна Заслонава Жэня Аксаніч; заўтра — сын высокага жандарскага чына Пётр Каламійцаў; на чарзе — фанабэрлівы і зламысны капітан Пельцар з акупантаў, што шалеюць у Мінску ("Людзі і д'яблы" К. Крапівы); нечакана бунтарны і неўтаймаваны Адам па мянушцы "Салавей" у аднайменнай п'есе Зм. Бядулі...

Я называю толькі некаторыя ролі з даволі багатага рэпертуару Барыса Уладамірскага. Кожную з іх ён распрацоўваў надзвычай старанна, імкнучыся паказаць на сцэне высокі кшталт акцёрскага мастацтва. Як і кожны сапраўдны артыст, ён чакаў і нават прагнуў прызнання, апладысментаў. Яму было прыемна пачуць аб сабе пахвальны водгук і гледача, і крытыка як пра майстра, які адмыслова робіць сваю справу. Калі яго сустракалі ў скверы непадалёк ад фантана "Хлопчык з лебедзем" пасля спектакля, ён выглядаў неяк усцешна стомленым, прыцішана радасным. Пабачыўшы такога Барыса, я часам успамінаў у думках тую сямейную легенду: "Шча-сце..."

У 70-м годзе да паўвекавога юбілею тэатра выдалі каляровы буклет "Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы" са здымкамі артыстаў і сцэн са спектакляў. Мы сядзелі паблізу вільготнага фантана са струменямі сярэбранай вады, і раптам Барыс рынуўся насустрач Ірыне Фларыянаўне Ждановіч. Калі вярнуўся, іскрыста бліснуў вачыма і паказаў аўтограф вялікай беларускай актрысы побач з яе фотаздымкам: "Майму брату... Ждановіч".

Яны былі партнёрамі ў класічным спектаклі купалаўцаў "Апошнія" паводле п'есы М. Горкага (Барыс змяніў у ім першага выдатнага выканаўцу тае ролі, дарэчы, у жыцці мужа І. Ждановіч —славутага Б. Платонава). Па сцэне яны былі братам і сястрой —Пятром і Верачкай. Абодва пёражываюць жудасную трагедыю, калі ў душы падлеткаў нараджаецца і раптоўна выбухае скандальны пратэст супраць усяго, чым жывуць іхнія бацькі, сям'я жандарскага чына Каламійцава. На вельмі шчымлівай ноце заканчваўся спектакль, калі Пётр, пачуўшы амаль прарочыя словы аб тым, што "смерць пакорліва служыць справе жыцця. Старое, непатрэбнае — гіне...", адчувае і сябе з маладошай сястрой Верай без віны вінаватым у трагедыі "апошніх" з роду Каламійцавых. Як спалохана і як дапытлiва гучалі ягоныя словы: "У чым я вінаваты? І Вера? Усе мы!.."

Вось што мела на ўвазе, відаць, І. Ждановіч, надпісваючы на здымку: "Маййму брату..." Ды ці толькі гэта? Акцёры — народ з незвычайна багатай фантазіяй і смелымі ўяўленнямі. Барыс Уладамірскі адчуў у такім прызнанні, зробленым "самой Ждановіч", паплечніцай ягонага бацькі, вялікі сэнс. Сама Ірына Фларыянаўна доўжыла дынастыю Ждановічаў на беларускай сцэне —рэпрэсіраваных энкэвэдзістамі бацькі Фларыяна Паўлавіча і дзядзькі Антона, які выступаў у Першым БДТ пад псеўданімам "Антук Крыніца". З яе імем звязаны ці не найяркчэйшыя старонкі гісторыі драматычнай сцэны беларусаў у трыццатыя і саракавыя гады. І штосьці было самому Барысу Уладамірскаму магічна перададзена ёю, калі яны выступалі партнёрамі ў тых жа "Апошніх" і ў "Канстанціне Заслонаве" (Уладамірскі — Жэня Аксаніч, Ждановіч — Аня Крушына). Актрыса непаўторна глыбокіх трагедыйных перажыванняў, яна сваёй артыстычнай творчасцю давала ўрокі высокага прафесіяналізму.

Барыс неяк натуральна ўбіраў у сябе тыя ўрокі ад усіх. І ад бацькі свайго, і ад М. Зорава, на курсе якога пачынаў пасля школы вучыцца ў былым Мінскім тэатральным вучылішчы... Хаця варта падкрэсліць: прырода надзяліла Барыса Уладамірскага такім яскравым талентам, што больш правільна, бадай, гаварыць не пра ўрокі, а пра шліфоўку нібы і народжанага акцёрам гэтага выдатнага купалаўца.

Але ён і сапраўды меў права адчуваць сябе братам (ці дакладней скажам — пабрацімам!) акцёрскіх самародкаў, якія праславілі колішні Першы БДТ. Ці ж выпадкова якраз яму, Барысу Уладамірскаму, даручаюць заняць месца Барыса Платонава ў трох вельмі важных для рэпертуарнага прэстыжу тэатра спектаклях: ён — другі выканаўца платонаўскіх роляў у "Апошніх", у "Рамэо і Джульеце" і ў драме бразільскага драматурга Г.Фігейрэду "Ліса і вінаград".

Ах, якія гэта быў прыцягальны, я сказаў бы, ашаламляльна чароўны Эзоп! Натура — адметная. Характар — складаны. Розум — светлы. Раб кахае жонку свайго гаспадара і адчувае ўсю глыбіню шчаслівага і непадзельнага, можа быць, і заклятага кахання. Бо ніякая прыхільнасць Клеі не вызваляе раба, і ён адмаўляецца ад хвіліннай радасці, цяпер ужо з тужліваю мальбою хаваючы ад жанчыны свае вочы. "Калісь глядзеў на сонца я, мне сонца асляпіла вочы. Дык што мне цемень вечнай ночы: калісь глядзеў на сонца я", — так бы мог прамовіць герой Б.Уладамірскага вершам Максіма Багдановіча. Адчуванне пераможцы Эзопу дорыць нават толькі магчымая, хай сабе і недасягальная перавага над Ксанфам, над уладаром.

Прывід шчасця? Самападман? Прымірэнне з яваю?

Па-акцёрску Б.Уладамірскі не надта клапаціўся аб тым, каб яго трактоўка вобраза, яго выкананне ролі давала адказ на падобныя пытанні, калі яны нараджаліся ў гледача. От, выходзіць сабе на сцэну няўрымслівa таленавіты на відачын (па-руску "лицедейство") чалавек і паказвае нам па-тэатральнаму барвіста яшчэ адну адметнасць, яшчэ адзін варыянт чалавечага характару і чалавечага лёсу. Вы ўжо самі што сабе хочаце, тое і думайце, мяркуйце, спрачайцеся, рабіце высновы! Акцёр — толькі выканаўца ролі.

Са школьнага класа Барыса Уладамірскага запрашаюць у толькі што адкрытае тэатральнае вучылішча. Летам 1941 года Першы БДТ разам з ягоным бацькам У.Уладамірскім і любімым настаўнікам М.Зоравым выпраўляецца на гастролі ў Адэсу. І тут — вайна. Робіцца нешта незразумелае: нашы войскі адступаюць, здаюць амаль без бою Мінск. Неўзабаве ворага спыняць і пагоняць... Але гэтае "неўзабаве" расцягнулася на тры гады. І студэнт тэатральнага вучылішча паступае ў адкрыты ў акупіраваным Мінску гарадскі беларускі тэатр. Мабыць, унутранае апраўданне гэтаму ён бачыў якраз у сваім уяўленні пра спецыфіку акцёрскай творчасці, пра якую мы толькі што гаварылі. Выканаўца ролі!

І здарылася нешта драматычнае. Бацька — Уладзімір Восіпавіч Уладамірскі — з тэатрам у эвакуацыі, у сібірскіх гарадах. Сын — у захопленым фашысцкімі акупантамі горадзе служыць у сабранай з мясцовых артыстаў трупе. Там паказваюць патрыятычныя спектаклі і даюць канцэрты для маршавых батальёнаў. Тут прадстаўляюць на сцэне жыццёвыя гісторыі і казачныя сюжэты. Вялікія ролю Б.Уладамірскаму не даручаюць, і самай значнай па мастацкіх фарбах і тэмпераменце была, кажуць, у яго роля Лесуна ў казачнай п'есе знакамітага нямецкага драматурга Г.Гаўптмана "Патанулы звон".

Можна доўга спрачацца наконт таго, ці правільна кваліфікаваць артыста (помніце? "толькі" выканаўца ролі!), які выступае на сцэне ў акупіраваным ворагам горадзе, як здрадніка, перабежчыка, калабарацыяніста, але адпаведныя нашы органы ў спрэчкі не пускаліся. Пасля вызвалення Мінска артыст Б.Уладамірскі быў арыштаваны. Турма. Лагер.

Не ведаю, ці ўспамінаў ён сам на турэмных нарах, якое першае слова прамовіў дзіцем. "Шчас-це" для яго спахмурнела. Ён стаў мастаком, пра якіх кажуць: той, хто пакаштаваў астрожнай баланды. Потым яму вярнулі грамадзянскія правы. Праслужыўшы два гады ў Брэсце, Б.Уладамірскі зноў узыходзіць на падмосткі роднага Першага БДТ і завяршае прызнанне як сапраўдны купалавец, пабрацім самых лепшых і самых адмысловых майстроў сталічнай сцэны.

Цалкам аддадзены тэатру, Барыс бываў і па-багемнаму непрадказальным. Мог закулісным гультаю або шарлатану кінуць у вочы, што той ганьбіць тэатр і яму не месца тут, дзе ступала нага Уладзіміра Крыловіча! Калі ён вымаўляў імя вельмі дарагога яму артыста Крыловіча, усе здагадваліся, што Барыс мае на ўвазе і свайго бацьку: "... нага Уладзіміра Восіпавіча!".

Ён быў больш рамантычным у тых ролях, якія выконваў пасля Платонава. Гаварылі, што гэта прывілея маладосці. Так то яно так, але ж была ў яго і адчувальная прага незямнога харaства, аб якой думаецца за турэмнымі кратамі, жаданне зведаць якуюсьці вышэйшую, наўзгорную праўду жыцця. Гэтаму імкненню так спрыяе тэатр! Барыс паводзіў сябе на сцэне свабодна, без якіх-небудзь аднак прыкрага акцёрскага "поту". Прыродай яму было дадзена лёгка і радасна пераўвасабляцца ў сцэнічны вобраз, якім бы той ні быў супярэчлівым і складаным. Калі ж яму знарок давалі шэрыя эпізадычныя і другарадныя ролі, якія аніяк не адпавядалі маштабу гэтага таленту (накшталт таго ж чыгуначнага вагоннага праведніка ў спектаклі "Мы, што ніжэй падпісаліся..."), ён з гарэзлівым настроем і зпарочыста зухавата выконваў іх, падкрэслена бездакорна, дэманстратыўна дасканала.

Творца каларытных і маштабных сцэнічных вобразаў, Барыс Уладамірскі пакінуў адметны след у самой прафесійнай звычцы беларускага акцёра. Тэатр — і анічога, акрамя тэатра! Ад калыскі і да труны...

Мабыць, там, на сцэне, яму мроілася тое жаданае "шчас-це", і ён, напэўна, не адзін раз адчуваў набліжэнне да яго. Кажуць, за вялікі талент чалавек нечым плаціць, бо штосьці яму дадзена задужа, а нечага ён бывае зусім пазбаўлены. Немезіда не дрэмле! І мне здавалася (ды і цяпер здаецца), што Барыс Уладамірскі, аддаючы сябе цалкам сцэне, спадзяваўся на міласць Бога, які дарае мастаку па прызванню і багемныя грахі, і непазбежныя ў жыцці памылкі.

Барыс БУР'ЯН.

---

АНТОН ШАНТЫР — СЫН ЗОСЬКІ ВЕРАС І ФАБІЯНА ШАНТЫРА

## ПАКАЛЕЧАНЫ ЛЁС

Таленавіты, але забыты. Лёс гэтага чалавека такі ж драматычны, як і ўсяго нашага народа. Імем яго заўсёды даражыла Зоська Верас, часта прыпамінала ў сваіх пісьмах. Тыя, хто яго ведаў, памятаюць як выключнага эрудыта не толькі ў пытаннях беларускай гісторыі і культуры, але і сусветнай. Гутаркі з ім запомняцца ўсім, хто хоць раз з ім сутыкаўся.

Нарадзіўся Антон Фабіянавіч Шантыр каля 1920 года ў Альхоўніках на Беласточчыне, дзе тады жыла ў сядзібе свайго дзеда Зоська Верас. З малым дзіцем яна пераехала ў Вільню. Тут выйшла замуж за Антона Войціка. Так што сын З.Верас Тонік (так яго звалі дома і сябры) узгадаваўся на віленскім прыволлі. Закончыў Віленскую беларускую гімназію. Здаецца, тады ўжо пад уплывам нацыянальнага акружэння стаў пісаць вершы на роднай мове. Шмат самастойна назапашваў ведаў пра Беларусь, пра яе старажытны цэнтр —Вільню. Магчыма перад вайной ён яшчэ недзе вучыўся, але хутка ўсё пераблытала вайна, і ён разам з братамі Луцкевічамі (маладышамі) едзе ў Радашковічы. У гэтых ваколіцах працаваў настаўнікам. Педагог ён быў выдатны, даваў вучням грунтоўнейшыя веды. Ратаваў моладзь ад вывазу ў Нямеччыну і, як заўсёды, праяўляў цікавасць да нацыянальнай спадчыны. Пісаў вершы, прычапляў любоў да Бацькаўшчыны. У 1944 годзе ён вярнуўся ў Вільню. Па расказах В.А.Груздзь-Конан (ён ёй расказваў), А.Шантыр, калі быў схоплены энкэвэдзістамі, то выдаў сябе за замежніка. Ён бліскуча гаварыў па-нямецку, без акцэнту. Але якраз і выдаў яго немец. Так што да 1956 года ён адседзеў у розных лагерах. Вярнуўся ў Вільню знявечаным, хворым. Застаўся жыць са сваёй маці і малодшай сястрой Галінай Антонаўнай Войцік, кандыдатам філалагічных навук.

У хатцы-песнячоўцы Антон Шантыр дажываў свой век, дапамагаў маці. Фактычна ён стаў кіраваць усёй гэтай гаспадаркай. Вось толькі здароўе перашкаджала жыць паўнакроўным жыццём. Па-ранейшаму хінуўся да літаратуры, практыкаваўся ў паэзіі, якая насіла лірычна-філасофскі напрамак. Зрэшты, ён і па сваёй прыродзе быў філосаф.

У хатцы Зоські Верас, а значыць і яго, бывала шмат гасцей. Заўсёды ветлівы, дарадчывы Антон Шантыр цікавіўся, што адбываецца на шырокім беларускім свеце. Заўсёды заставаўся патрыётам роднай культуры, літаратуры, мовы.

Яго аблічча думаючага чалавека зрабіла ўражанне на мастака Пётру Сергіевіча. На сцяне ў старой хаціне вісеў партрэт Антона Фабіянавіча, выкананы рукой руплівага беларускага жывапісца.

Прыпомнiўся і мне гэты вобраз чалавека, якога, на жаль, я пазнавата пазнаў. Як цяпер, у маіх вачах Антон Шантыр, які ўедліва ўчытваецца ў новую кнігу на замежнай мове, знаходзіць у ёй "беларускія" мясціны і тут жа перакладае, радуецца яшчэ адной знаходцы. Прыемная захопленасць.

Хударлявы, хворы Антон Шантыр адзінока дажываў свой век, захоплены кнігамі. Гутарыць з ім было адно задавальненне, ён разгледжваў многія пытанні нацыянальнай гісторыі і культуры ў кантэксце еўрапейскім. Мог стаць выдатным педагогам-даследчыкам, але такім не выпала стаць. Лёс не пашкадаваў яго: як і некаторыя здольныя хлопцы, не вытрымаў выпрабаванняў жыцця. Памёр летам 1976 года і сёння забыты. Такі лёс гэтага вельмі інтэлігентнага беларуса.

Генадзь КАХАНОЎСКІ.

---

## ДЗЕЦЯМ ПАДАБАЕЦЦА ФАЛЬКЛОР

Амаль увесь вольны час аддаюць заняткам у фальклорным ансамблі многія дзеці Хожаўскай сярэдняй школы Маладзечанскага раёна. Кіраўнік яго — Яўгенія Чаброўская — за два гады здолела стварыць такі зладжаны танцавальны калектыў, якому па сіле складаныя фальклорныя праграмы, такія, як "Каляды", "Масленіца", "Гуканне вясны" і іншыя. Ансамбль "Хажаўлянка" стаў ужо лаўрэатам рэспубліканскага конкурсу і атрымаў званне ўзорнага.

Зараз юныя танцоры рыхтуюць новую праграму да міжнароднага фестывалю кветак, які пройдзе ў рэспубліцы Марый-Эл, іх чакаюць таксама канцэрты ў Санкт-Пецярбургу.

*МЕРА ТАЛЕНТУ*

# ЧАЛАВЕК, ЯКІ ЎПРЫГОЖВАЕ СТАЛІЦУ

Юрыя Любімава, знакамітага сёння ў мастацкім асяроддзі чалавека, запрасілі на працу ў Мінск яшчэ ў канцы шасцідзесятых гадоў. Ён тады толькі што скончыў Маскоўскае мастацкае вышэйшае вучылішча. У студэнцкіх колах быў прызнаным лідэрам-пераможцам шматлікіх конкурсаў.

Ягоны цёзка Юрый Пятровіч Любімаў, тады яшчэ малады рэжысёр маскоўскага Тэатра на Таганцы, згадзіўся на афармленне некаторых дэталяў у тэатры здольным студэнтам-мастаком. Работа спадабалася. Цікавым было і знаёмства. Юрый Пятровіч працягнуў руку і прадставіўся: "Юрый Любімаў". У адказ моцны поціск і таксама: "Юрый Любімаў". Плата была шчодрай. Аднакурснікі цёзкі рэжысёра глядзелі спектаклі ў тэатры задарма, аж пакуль не раз'ехаліся пасля вучобы.

У былым тэатральна-мастацкім інстытуце (цяпер акадэміі) у Мінску Любімаў выкладаў для здольных хлопцаў тэхніку мастацкай апрацоўкі металу. І атрымалася так, што ўжо на пачатку сваёй кар'еры займеў шмат вучняў. Творчая скарбонка рэспублікі папаўняецца таленавітымі працамі новых беларускіх "металістаў". Але ў працавітасці абысці настаўніка яшчэ пакуль што ніхто з іх не змог.

Не кожны чалавек здольны падпарадкаваць сабе метал, а пры творчым вырашэнні надаць вырабам толькі ім уласцівую арыгінальнасць і індывідуальнасць.

У Ю. Любімава ж што ні дэкаратыўнае пано (выкананае чаканкай з гарачымі эмалямі), то ўзор ледзь не энцыклапедычнага характару: "Зубр", "Сонца", "Матылькі і птушкі", "Лета", "Паляванне", "Глушэц".

Выпадкова ў доме для афіцыйных гасцей на Заслаўскім вадасховішчы прэзідэнт Францыі Жорж Пампіду ўбачыў чаканку Любімава. Ён папрасіў зняць яе са сцяны і доўга ўважліва разглядаў. Усё здзіўляўся: неверагодна! Сам некалі чаканіў, але так "працягнуць" метал без аднае памылкі, ды каб не збракаваць, пры гэтым прыдаўшы эмалямі дзівосныя адценні гарачага лета, — нідзе не бачыў. Высокі госць пажадаў сустрэцца з аўтарам, але дзе там! Спаслаліся, што вандруе недзе мастак. Тады было не прынята без адпаведнага ўзгаднення і ўдакладнення дазваляць сустрэчы з іншаземцамі.

Прэзідэнт Францыі задаволіўся тым, што сфатаграфаваўся на фоне пано.

Расказалі пра тое Пятру Машэраву, які надзвычай цаніў таленавітых людзей. Уважліва азнаёміўся ён з работамі Любімава. Асабліва яму спадабаліся ювелірныя вырабы мастака, абклады сувенірных выданняў Я. Купалы і Я. Коласа, кавальскія аздобы камінаў. Здаўна на Беларусі кавалі былі вельмі паважанымі і патрэбнымі людзьмі. Прыкладна пра гэта ішла размова паміж тадышнім партыйным лідэрам Беларусі і мастаком. Пётр Машэраў бачыў у творцах не толькі людзей, якіх можна выкарыстаць дзеля ідэалогіі, але і па-людску цікавіўся іх жыццём-быццём. Біяграфія ж мастака Любімава была амаль тыповай для многіх перадваенных хлопцаў. Ён нарадзіўся ў сям'і кадравага вайскоўца напярэдадні вайны. Усе дзеці Любімавых, а іх трое, маюць у метрыках розныя месцы нараджэння. Бацька закончыў вучобу ў ваеннай акадэміі. Яго, як выдатніка, пакідалі ў Маскве. Але ён, упіхнуўшы жонку з дзецьмі ў адыходзячы на Урал цягнік, у першыя ж дні вайны сам адправіўся на фронт. Загінуў у сорак трэцім на беларускай зямлі. Маці паставіла на ногі ўсіх траіх. Для сваіх дзяцей яна і сёння ўвасабленне дабрыні, стойкасці і самаахвярнасці...



Заканчвалася гутарка кіраўніка рэспублікі з мастаком. Нічога не папрасіў Любімаў у Пятра Міронавіча, хоць той і спытаў, чым можа паспрыяць далейшай плённай працы. Падзяліўся толькі запаветным: марыць падстрэліць глушца. Пакуль што і падкрасціся не ўдавалася блізка, да таго хітрая птушка. А час адпачынку майстар цэніць асабліва, бо надыхаешся акалінай ля горна, дык любая гадзіна ў лесе, як у раі.

... Неўзабаве атрымаў Любімаў дазвол-ліцэнзію на паляванне, а праз колькі часу даведаўся, што яму выдзелена кватэра ў прэстыжным доме для архітэктараў і мастакоў. А ён жа і словам не абмовіўся аб больш чым сціснутых жыллёвых умовах сваёй сям'і.

— Тады я пачаў працаваць, як апантаны, — успамінае майстар. — Усе свае работы выконваў сам. Усё некаму хацелася даказаць, што творчасць прадстаўнікоў дэкаратыўнага жанру вырасла з цеснай вопраткі утылітарнасці. Перайшоў на больш складаныя скульптурныя формы... Зрабіў кампазіцыю "Спорт і чалавек". Яна на фасадзе Палаца фізкультуры і спорту вытворчага аб'яднання "Гарызонт". Але яшчэ на адной рабоце хочацца спыніцца асобна.

Гасцей з багатага замежжа, а дакладней, дзелавых нашых партнёраў, што прадстаўляюць свой тавар у выставачным комплексе нашай Гандлёва-прамысловай палаты, вітае апякун гандлю Меркурый. Яго ў выглядзе скульптуры-флюгера ўладкаваў Любімаў на высокім асвятляльным слупе на пляцоўцы перад комплексам. Якраз тады побач працавалі амерыканцы, рыхтавалі выставу сваёй электроннавылічальнай тэхнікі. Уяўляеце суседства: сучасная супертэхніка і двухтонны, але імклівы, прыгожы і, як належыць Богу, бязважкі Меркурый, выбіты з медзі, прабачце, малатком і кувадлай. Захапляючыся работай майстра, прыезджыя ўсё дапытваліся, на якіх станках аўтар зрабіў такі цуд. Мастак не стаў раскрываць сваю "тэхніку" і, пасмейваючыся ў вусы, тлумачыў: маўляў, у вас свае сакрэты, у нас — свае.



Наогул, флюгеры Любімава — тэма асобная, і гаварыць пра іх можна шмат. Нагадаю некаторыя: над Мінскім епархіяльным упраўленнем — Георгій Перамоганосец, на плошчы Незалежнасці на інжынерным корпусе сталічнага метрапалітэна зубр і гадзіннік, на Чарнаморскім узбярэжжы Крыма над вежай лячэбнага корпуса санаторыя "Беларусь" гаспадарліва "аглядае" свае прасторы медны Нептун Любімава на марскім коніку. А над прафілакторыем Дзяржбуда ў Налібоцкай пушчы прыгожа лунаюць журавы з рознакаляровымі ўстаўкамі літога шкла ў метал. Гэта новаўвядзенне характэрнае для некалькіх флюгераў майстра. Творы толькі часткова перадаюць шматграннае майстэрства мастака. І не адлюстроўваюць характар майстра, хаця і маюць сваё прызначэнне, але падуладныя ветру. Характар жа Юрыя Любімава, на мой погляд, падобны хутчэй на работы кавальскія: нагрэты да чырвані, да залатога бляску, распластваецца метал пад цяжкімі ўдарамі молата. Загартоўваецца, цяжкім потам куецца штосьці вартае, важкае, трывалае на вякі.



Каваныя вароты ў Доме літаратара, дэкаратыўныя перагародкі рэстарана "Журавінка", гасцініцы "Турыст", камінныя прыналежнасці ў прафілакторыі артыстаў і многія іншыя работы мастака-каваля і сёння служаць людзям.

Гляджу на рукі майстра, шырокія, разбітыя, вялізныя далоні і ніяк не магу ўявіць, што ім падуладны не толькі молат, а і вытанчанае павуцінне срэбных "карункаў" ювелірных рэчаў. Праўда, пярсцёнкі, завушніцы, калье і бранзалеты, якія мне давялося ўбачыць, нібыта здабыты з раскопак скіфскіх курганоў. Так не падобны на раней бачаныя ювелірныя ўпрыгажэнні. Часта мы памыляемся, набыўшы ювелірную рэч у казённай ці камісійнай лаўцы. Нават калі яна з дарагога металу, на самай справе гэта штампаванае ўпрыгажэнне, біжутэрыя, а не мастацкая рэч. У кожнага майстра-ювеліра свой сакрэт, свая тэхніка, свой густ. Вось перада мной кавалачак белага металу з адпаліраваным паглыбленнем, а на дне яго маленькая зялёна-празрыстая пацерка — "Лясное возера". Альбо гэтая яшчарка, што стаілася на кавалачку малахіту, якім аздоблены сціплы срэбраны пярсцёнак, яна нібы са старонак казак Бажова...

Не вельмі мы ўжо бедныя, падумалася, калі маем такіх мастакоў. Уяўляеце, сукенка ад Булгакавай, жывапіс ад Шчаснай, а пярсцёнак ад Любімава — гэта не менш прэстыжна, чым, скажам, ад Кардэна ці Шанэль.



**Раіса УЛАДЗІМІРАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ:** Юрый **ЛЮБІМАЎ** і яго работы.

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА




### 6 сакавіка, субота

**БЯЛЬКЕВІЧ** Іван Кандратавіч — беларускі савецкі мовазнавец — нарадзіўся ў вёсцы Варонічы Слонімскага павета Гродзенскай губерні ў беднай сялянскай сям'і. Скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Настаўнічаў, загадваў школамі, працаваў інспектарам беларускіх школ на Слонімшчыне. У жніўні 1920 года быў пераведзены ў Мінск і прызначаны загадчыкам Беларускага аддзела Народнага камісарыята асветы БССР. Адначасова вучыўся ў Белдзяржуніверсітэце. У верасні 1925 года скончыў універсітэт, працаваў дырэктарам Мсціслаўскага педтэхнікума. Праз два гады вярнуўся ў Мінск і працаваў у Інбелкульце спачатку сакратаром Аддзела гуманітарных навук, потым спецыялістам Слоўнікавай камісіі.

Летам 1930 года быў арыштаваны па беспадстаўнаму абвінавачанню ў буржуазным нацыяналізме і высланы за межы Беларусі. Чатыры гады сплаўляў лес у Марыйскай АССР, потым пераехаў у Азова-Чарнаморскі край. Там настаўнічаў у школах. Памёр 18 кастрычніка 1960 года, так і не атрымаўшы дазволу вярнуцца на радзіму.

І.Бялькевіч у 20-х гадах выступаў з артыкуламі па пытаннях культуры беларускай мовы і з рэцэнзіямі на выдадзеныя мовазнаўчыя працы. Самым значным яго навуковым дасягненнем з'яўляецца "Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны" (1970). Працаваць над ім Бялькевіч пачаў з канца 1925 года, а завяршыў незадоўга перад смерцю ў высылцы. Слоўнік змяшчае каля 20 тысяч вузкарэгіянальных і агульнабеларускіх слоў. Словы пададзены з захаваннем мясцовага вымаўлення і вытлумачаны беларускімі літаратурнымі адпаведнікамі або апісальна, праілюстраваны прыкладамі звязнага тэксту. Акрамя таго, указана, якой часцінай мовы слова з'яўляецца; пры назоўніках прыведзены канчатак роднага склону і адзначаны род; да назваў раслін і жывёл, калі гэтыя словы адрозніваюцца ад прынятых у беларускай літаратурнай мове, зрэдку прыводзяцца лацінскія навуковыя тэрміны; пры словах запазычаных часам даюцца этымалагічныя даведкі або спасылкі на крыніцу запазычання. Слоўнік І.Бялькевіча з'явіўся каштоўным укладам у беларускую рэгіянальную лексікаграфію, атрымаў высокую ацэнку спецыялістаў і часта выкарыстоўваецца лінгвістамі пры даследаванні слоўнікавага саставу славянскіх моў.

**І. ГЕРМАНОВІЧ.**



**У дзіцячым экалагічным цэнтры Крычава пачала работу школа юных фермераў. Тут займаюцца вучні 7—11 класаў сярэдняй школы N 1. Атрымліваць тэарэтычныя веды і набываць практычныя навыкі дзецям дапамагае заатэхнік Таццяна Пархоменка. Будучыя фермеры ўмела спраўляюцца з работай у цяпліцы і на трусаферме, з цікавасцю вывучаюць сельскагаспадарчую тэхніку. Гэтым летам яны збіраюцца на практыку ў Польшчу. А пасля заканчэння заняткаў выпускнікі школы фермераў атрымаюць спецыяльныя дыпломы, якія будуць мець "вагу" пры паступленні ў сельскагаспадарчыя інстытуты і тэхнікумы.**

**НА ЗДЫМКУ**: на занятках па вывучэнню сельскагаспадарчай тэхнікі.

**Фота В. БЫСАВА.**

# У КОЖНЫМ УЗОРЫ ВЯЛІКІ СЭНС

**(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).**

Выява ромба, паводле навуковых даследаванняў вядомага археолага Бібікавай, паходзіць ад структуры біўня маманта. Малюнак на біўні (у разрэзе) адлюстроўвае паўкола з чатырох бакоў, якія і ўтвараюць паміж сабой своеасаблівы ромб. У першабытнасці мамант сімвалізаваў ежу. Значыць ромб — сімвал ежы, сытасці. Ён жа сімвалізуе вобраз жанчыны, прадаўжальніцы роду чалавечага на зямлі. Адсюль выходзіць, што ў дасканала простай геаметрычнай фігуры ромба ўвасоблены сэнс жыцця і дабрабыту — першая ў гісторыі чалавечай думкі ідэаграма. Далей ромб, круг ці любая замкнёная лінія, а таксама карагод — гэта салярны знак, сімвал сонца, якому пакланяліся нашы продкі ў часы паганства (дахрысціянскія часы). Культ сонца, як і культ жанчыны, быў вельмі моцным. Салярнай сімволікай з'яўляецца і рытуальны хлеб — вясельны каравай, а таксама крыжы розных форм. Як бачым, ромб і круг маюць шмат цікавых тлумачэнняў, але галоўнае, што яны азначаюць сонечнае бажаство. Салярны знак — гэта дасканаласць, вышыня, якой жадалі людзі адзін аднаму, дорачы рэчы з адлюстраваннем салярных знакаў у арнаменце. Сонца дае жыццё ўсяму на зямлі, яно неўміручае. Першабытнае мастацтва знаходзіць шмат водгукаў у сучасным мастацтве. Некаторыя паганскія сімвалы жывуць і дагэтуль, як і некаторыя абрады ці рытуалы.

Цікава, што "Пагоня" — гэта таксама сонечны знак. Сярод багоў, якім пакланяліся ў дахрысціянскія часы беларусы, найбольш любімым быў бог сонца — Ярыла. Продкі лічылі, што менавіта Ярыла — той бог, якога яны бачаць на небе ў сонечным коле. Паводле міфалогіі, колам сонца толькі здавалася з-за яскравага бляску, што ідзе ад прыгожага вершніка, хаваючы апошняга ад нядобрага вока. Вершнік на белым кані апрануты ў асляпляльны белы строй, ззаду развяваецца ярка-чырвоная накідка. Белы колер лічыўся сімвалам чысціні, духоўнай дасканаласці, непахіснасці веры, святасці. Чырвоны — колер жыцця, сонца, сілы, мужнасці, волі. Белы з чырвоным — жыццесцвярджальныя колеры. Той самы бела-чырвоны вершнік на белым кані, што быў на дзяржаўным штандары Вялікага Княства Літоўскага, і ёсць "Пагоня Ярылы", якая прыняла больш скарочаную форму "Пагоня".

Наогул у старажытныя часы кожная частка арнаменту, як і кампазіцыя цалкам, насіла сімвалічны характар. Напрыклад, калі нехта ствараў прадмет у падарунак, то абавязкова аздабляў малюнкам з выявай тых элементаў ці знакаў, што выкажуць галоўныя яго пачуцці і пажаданні. Дрэва жыцця (часта сустракаецца ў арнаменце) сімвалізуе універсальную мадэль пабудовы свету. Вышыты ці тканы альбо разьбяны крыж, нават проста шост (тое ж дрэва) азначаў пажаданне шчасця, дабрабыту. Выява казы — сімвал пладавітасці, зямлі — ураджайнасці поля. Менавіта таму на Каляды каза павінна была зайсці ў кожную хату, менавіта таму, перш чым пасеяць зерне, у поле выводзілі казу, каб па тапталася ды тым самым "дапамагла зямельцы апладзіцца". Выявы птушак, хатніх жывёлін — наогул пажаданне дабра, здароўя, сытасці. Птушка з птушанём ці жывёліна з дзіцем — пажаданне мноства дзяцей у сям'і. Выява змяі — пажаданне мудрасці, вужа — быць добрым гаспадаром ці гаспадыняй. Своеасаблівая ромбападобная сетка з кропачкамі ў ромбах — сімвал засеянага поля. Алень — высакародства, засцярога ад нядобрага. У арнамент людзі ўводзілі ўсё, што іх атачвала, нават пабудовы. Калі, напрыклад, дзяўчына вышывала на ручніку хату, дрэвы і быццам падкрэслівала малюнак хвалепадобнай падвойнай лініяй, гэта значыла, што яна жадала выйсці замуж за хлопца, якому даравала свой твор. Сімвалам шлюбу лічылі таксама адлюстраванне дажджу. У асноўным людзі зычылі дабра адзін аднаму. Але калі нехта жадаў іншаму благога, то ў арнаменце з'яўлялася выява стралы бога неба — Перуна. Але больш за ўсё ў арнаменце сустракаліся сонечныя знакі, бо сонца —вяршыня дрэва жыцця, а дрэва — мадэль космасу.

Сярод матываў арнаментальнага мастацтва былі і зааморфныя, і антрапаморфныя. Ёсць таксама культавыя арнаменты, рытуальныя, арнаменты-абярэгі.

Захавалася ад старажытнасці ў беларускім арнаменце і выява меандра, які таксама паходзіць быццам ад косці біўня маманта. Калі разгледзець разрэзы двух біўняў, то малюнак на іх не супадае, гэтая неаднолькавасць дала магчымасць атрымаць так званы меандр. Ёсць геаметрызаваны меандр, а ёсць "змяіны" меандр, які ўтвараецца больш плаўнымі лініямі. Арнаменты многіх славянскіх народаў маюць шмат агульнага з беларускім арнаментам, бо развіваліся яны па нейкіх агульначалавечых заканамернасцях.

Сустракаюцца прадметы, на якіх арнамент выконвае перш за ўсё утылітарную, практычную функцыю. Напрыклад, драўляную цурку чалавек выкарыстоўваў пры вязанні снапоў падчас жніва. Спачатку яна не мела аздаблення. Рука ад спякоты ды цяжкай працы хутка рабілася вільготнай, і цурка праскаквала ў руцэ. Прыйшоўшы ўвечары дахаты, чалавек узяў нож і выразаў рысачкі на тым канцы цуркі, дзе трымаўся рукой. На другі дзень працаваць было значна лягчэй: амаль непрыкметны рэльеф на драўляным прадмеце надаваў яшчэ большай практычнасці ды зручнасці, адначасова ўпрыгожваў. У даным выпадку арнамент выконвае спачатку практычную, а потым эстэтычную функцыю.

За шмат стагоддзяў свайго развіцця арнаментальнае мастацтва страціла сэнсавыя асаблівасці, засталася толькі знешняя форма тых ці іншых матываў. Не заўсёды майстрыха адкажа, навошта яна вышывае курачак альбо пеўнікаў ці выявы аленяў. Але, улічваючы тое, што мастак стварае твор, часцей кіруючыся пачуццямі ды нейкімі не вывучанымі яшчэ запраграмаваннямі, а не розумам, часта можна прачытаць вельмі многа цікавага, вывучаючы той ці іншы арнамент. Наогул мастацтва арнаментыкі — гэта складаная і мала даследаваная галіна ў выяўленчым мастацтве. У беларускім арнаменце мы сустракаем цудоўныя ўзоры геаметрычнага, расліннага зааморфнага, антрапаморфнага, сюжэтнага арнаментаў. Кожны з іх па-свойму прыгожы, мае сваю гісторыю, свой пачатак і, безумоўна, расказвае выяўленчымі сродкамі пра талент і майстэрства нашага народа, пра характар творцаў гэтага арнаменту, пра традыцыйнасць як адметную яго рысу.

Гаворка вялася пра самабытны нацыянальны арнамент. У наш час, асабліва ў гарадскім асяроддзі, можна сустрэць шмат розных вышываных, плеценых, нават тканых арнаментаў, якія вельмі далёкія ад традыцыі. Амаль забыліся пра дзівосна прыгожы чырвона-чорны арнамент, захапіўшыся шматколернасцю, якая часам не тое, што ўпрыгожвае, а, наадварот, робіць прадмет крыклівым, нецікавым. Не маючы магчымасці карыстацца натуральнымі ніцямі, хаця б баваўнянымі, майстры ствараюць вырабы, выкарыстоўваючы шматлікія сінтэтычныя ніці, якія таксама псуюць арнамент залішняй стракатасцю. Але што зробіш, калі ёсць жаданне вышываць, а ў краме нічога добрага няма...

**Валянціна ВОЛАХ.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку"
Тыраж 5 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 402.
Падпісана да друку 15.03.1993.